PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 31 (1890) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 2 ЖНІЎНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.




Ідзе аздабленне сцэны сёлетняга „Басовішча". Пра фестываль чытайце на 6–7 стар.

## ГРЫНЕВІЧЫ ВЯЛІКІЯ

У гэтую баярскую ваколіцу найлепш трапіць тады, калі прырода пачынае буйнець і квеціцца, калі з лугоў над рэчкаю Белай нясецца духмяны пах сушанай травы. Адсюль да Бельска толькі тры „старыя" вярсты, аднак „цывілізацыя" нібыта абмінула гэтыя месцы, а гісторыя пакрučаста ператварыла лёсы жыхароў. Сёння толькі прозвішча Грынявіцкіх напамінае пра шматвяковую даўніну.

Назва Грыневічы тыпова ўсходнеславянская, паходзіць ад імя Грынь (царкоўнае Грыгорый). Апрача двух вёсак з назвай Грыневічы каля Бельска, на Беласточчыне знойдзем яшчэ Грыневічы непадалёк Беластока (гм. Юхновец); знойдзем Грыневічы і ў Беларусі ў Пружанскім раёне. У сваім нарысе будзем займацца Грыневічамі каля Бельска.

Грыневічы каля Бельска складваюць сабою два асобныя пасяленні: Грыневічы Малыя і Вялікія. Лёс гэтых сёл быў практычна непадзельны. Аднак жа большым цэнтрам былі, бадай, Грыневічы Вялікія. Тут жа знаходзілася царква св. прарока Ільі, галоўны аб'ект нашага зацікаўлення.

Мінулае Грыневіч і іх наваколля зыходзіць у глыбіню стагоддзяў. На гэта звярнулі ўвагу археолагі ўжо ў міжваенны час. Сур'ёзныя доследы сярод грыневіцкіх далін і пагоркаў пачаў весці археолаг Зыгмунт Шміт, на пачатку 20 гадоў. Даследаваў ён і абшырную пясчаную выдму побач ракі Арлянкі, паміж Грыневічамі і Суботкай. На аснове знойдзенай керамікі акрэсліў яе прыналежнасць насельніцтву балтыйскай групы, эпохі нэаліту. *(„Wiadomości Archeologiczne" 1922—1926)*. Даволі многа публікацыяў пра грыневіцкія археалагічныя знаходкі паказалася ў 70-ыя гады нашага стагоддзя. Публікацыі датычыліся галоўным чынам даследавання адкрытай у Грыневічах Вялікіх керамікі — дасканалага матэрыялу для акрэслення даўнасці і паходжання культурнага археалагічнага пласта.

Польскі археолаг Альжбета Кэмпісты палічыла кераміку з Грыневіч сходнаю з керамікай наднёманскага тыпу (параўнаўчы матэрыял з Беларусі паходзіць з III і пачатку II ст.ст. да н.э. *(Rocznik Białostocki, t. XIII, s. 532)*. Гэта паказвае на роднасць культур, якія існавалі ў той перыяд на землях Заходняй Беларусі, Падляшша і Усходняга Мазоўша.

Іншыя цікавыя вывады прыносяць доследы могільнікаў з наваколля Грыневіч, што праводзіліся згаданым З. Шмітам, а пасля Тэрэсай Дамброўскай. *(Materiały starożytne i średniowieczne t. II, 1973)* Адкрытыя ў Грыневічах магілы старажытнага змешанага могільніка належаць як да гэтак званай культуры пшэворскай, так і да культуры зарубінецкай. Сведчыць гэта пра дэмаграфічныя змены, якія праходзілі на нашых землях у той старажытны перыяд. На пастаяннае тут пражыванне нашыя продкі ўсталяваліся пасля заканчэння „вандроўкі народаў" у VI/VII ст.ст. н.э. Грыневічы, відаць, не адразу сталіся важным цэнтрам, заставаліся яны ў цені непадалёкага старога асяродка ў Гацьках.

У XI—XIII ст.ст. стараннем князёў кіеўскіх, тураўскіх і галіцка-валынскіх пачынае стварацца і мацнець горад Бельск. Адбудаваны пасля татарскіх знішчэнняў, ужо ў Вялікім княстве Літоўскім горад яшчэ больш узрастае ў значнасці. У горад і яго наваколле прыбываюць новыя пасяленцы з глыбі княства, якія папаўняюць жывучае тут здаўна рускае насельніцтва. Пісаў аб гэтым праф. Ежы Віснеўскі:

„...trwalsze objęcie rządów przez Wielkie Księstwo Litewskie pociągnęło za sobą dalsze wzmocnienie i rozwój osadnictwa ruskiego, a także pojawienie się nad Bugiem i Narwią osadników

працяг на стар. 5

## РУХ НА ГРАНІЦЫ

У Белавежы бадай ужо нікога не здзіўляюць на вуліцах групы жыхароў Пружанаў ці Камянца — раённых цэнтраў у прыгранічнай паласе на Беларусі. Таксама белавежац — звычайны госць на беларускім баку. Гэта перш за ўсё эфект наладжанага каля двух гадоў таму назад супрацоўніцтва на культурнай ніве паміж гэтымі мясцовасцямі.

— Абменьваемся пераважна сваімі мастацкімі калектывамі, — гаворыць войт гміны Белавежа Анна Байко.

— Часцей напэўна гасцюем пружанцаў. Іх выступленні ў Белавежы прымаюцца заўсёды з вялікім адабрэннем, а некаторых выканаўцаў публіка ведае нават па прозвішчы. Наладжваюцца пры нагодзе і індывідуальныя сяброўствы, знаёмствы. У бягучым годзе мы ўпершыню абмяняліся дзецьмі. На Дзень дзіцяці ў Пружаны паехала 70 нашых дзетак, якія займаюцца ў Белавежскім асяродку культуры. Мы ў сваю чаргу прынялі 100-асабовую групу школьнікаў з Пружанаў. Зараз хочам працягваць дзіцячыя паездкі. Пажадана ў 20-асабовых групах. Нашы дзеці спыняліся б на тыдзень-два ў тамашніх сем'ях, а іхнія — у нашых. Пры нагодзе дзеці падвучыліся б мовы. А трэба ведаць, што ў Пружанах каля ста школьнікаў вывучае польскую мову. На жаль, у Белавежы навучанне беларускай мове не вядзецца — папросту няма такога патрабавання бацькоў.

Паездкі дарослых наладжваюцца пераважна з нагоды святкавання нейкіх гадавін ці арганізавання розных мерапрыемстваў. Вось з 4 на 5 ліпеня г.г. пружанцы наладзілі ў сябе Купалле, запрасілі і белавежцаў. Белавежцы адудзячыліся запрашэннем на сваё Купалле, якое адбылося праз тыдзень. Выступілі на ім таксама ансамблі з Бярэсця, Гародні і Менска.

2 жніўня г.г. адбудзецца ўрачыстасць-мартыралог у Пераровe, на якую белавежцы ўжо запрошаны. А на пераломе жніўня і верасня наладзяць яны ў сябе сустрэчу з беларускімі ветэранамі.

Пераходзяць людзі дзяржаўную граніцу і ў рамках супрацоўніцтва ці сяброўства паміж паасобнымі ўстановамі або прадпрыемствамі. Наколькі вялікі стаўся ўжо гэты рух, хопіць сказаць, што ў мінулым годзе пераходны пункт непадалёку Падлянаў перайшло каля 12 тысяч грамадзян.

ПЁТР БАЙКО

## НА мяжы

**Частка IV**

Адзін з сялян, якога я ўжо цытаваў у папярэдніх адрэзках, выказаўся надта пахвальна ў адрас той сістэмы, якая ў нас панавала пасля вайны. Вось яго словы: „Ты тут мне намякаеш на капіталізм. А я табе скажу так: — Ты вылез з блох, з блашчыц, закончыў навукі, дастаў работу і кватэру у Варшаві. То хто табе гэто ўсё даў? Дала дэмакратыя, от хто даў! Тысячы маладых беларусаў после вайны пашло ў школы, вывучыліся і сталі людзьмі. А хай цяпер папрабуе вучыцца, то з яго вэнтробы выцягнут. От што! Не бось, калі ты вучыўся, то панство не толькі цябе вучыло, але давало кватэру і стыпендзію. Усё бесплатно. Ніхай табе сегодня усё гэто капіталізм даст. Фігу даст, больш нічого! Пажылі людзі, ой пажылі, больш ужэ такого жыцця не будзе на свеці. А і радзіво, чы тэлевізар калісь бывало паслухаеш. То просто душы было міло. Аб дружбі гаварылі, аб спулпрацы, а цяпер толькі злосць, нянавісць і цкаванне. Людзі ўсё адно як зверы сталі. А ўсё гэто капіталізм, брацішку, нарабіў, от што".

Прыведзенае выказванне даволі тыповае, асабліва для сярэдняга і старэйшага пакаленняў. Я памятаю ранейшыя паводзіны тых людзей, якія так апалагетычна гавораць сёння аб мінулым. Трэба сказаць, што ў мінулым адносіліся яны да тагачаснай рэчаіснасці крытычна. Сёння ад гэтага крытыцызму нічога не засталося. Так, мабыць, яно ёсць, што чалавек схільны крытычна ацэньваць сучаснае і ідэалізаваць мінулае.

І сапраўды, гаворачы аб капіталізме, трэба мець на ўвазе тое, што ёсць розныя капіталізмы ў сучасным свеце. І нельга параўнаць капіталізм шведскі і, скажам, венесуэльскі. Таксама, зрэшты, як і розныя былі сацыялізмы. Ці ж можна сказаць, што польскі сацыялізм быў такі самы, як рускі? І ў сэнсе адносін да чалавека, і ў сэнсе ўзроўню жыцця былі гэта вельмі розныя з'явы. Зразумела, што тыя людзі, якія з'яўляюцца ў нас гарачымі прыхільнікамі капіталізму, вераць, што ў нас будзе капіталізм шведскі ці нямецкі, а не егіпецкі ці венесуэльскі. Пакуль што, аднак, не відаць сімптомаў, якія б сведчылі аб тым, што запануе ў нас нямецкі гаспадарчы парадак. Болей бачым праяваў паўднёваамерыканскай гаспадарчай неразбярыхі, чым нямецкага ладу і парадку.

### БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Трэба, аднак, памятаць, што адвароту няма. Гісторыя адвярнула нашы грамадствы ад сацыялізму і павярнула ў бок капіталізму. І сёння магчымы толькі адзін кірунак маршу. Гэты напрамак вядзе ў капіталізм. І ўсе нашы ўздыханні, жалі, сентыменты і сімпатыі ў адрас сацыялізму не маюць практычнага значэння і толькі становяцца перашкодай у аб'ектыўным разуменні рэчаіснасці.

А маіх сялянскіх размоўцаў я поўнасцю разумею. І не трэба мне напамінаць усё тое, што „народная дэмакратыя" зрабіла для мяне і майго пакалення . Я гэта памятаю вельмі добра. Аднак, гістарычныя перамены маюць няўмольны характар. Калі мы не будзем з імі згаджацца, дык толькі пагоршым свой стан духа, будзем спрыяць нервозам і комплексам ды бязвыхаднасці чалавека, загнанага гісторыяй у пастку. Не заахвочваю чытачоў, каб станавіліся апалагетамі і энтузіястамі капіталізму, аднак, адводжу іх ад думкі аб супрацьстаўленні яму. Такое супрацьстаўленне будзе формай біцця галавой аб сцяну.

**А. БАРСКІ**

## З мінулага тыдня

Быдгаскі гісторык праф. **Адам Судал** рыхтуе да друку кніжку аб **Народным сходзе Заходняй Беларусі**, які адбыўся 28—30 кастрычніка 1939 года ў Беластоку і прыняў рашэнне аб далучэнні Заходняй Беларусі да БССР. Кніжка мае называцца „Kulisy IV rozbioru" і будзе складацца з абшырнага ўступу, стэнаграмы Народнага сходу, іншых дакументаў і кароткіх каментарыяў да некаторых фактаў. Усё будзе падмацавана здымкамі (большасць з іх будзе публікавана ўпершыню) з тайнага архіва НКВД пад Масквой. Аўтар кнігі разам з дырэктарам Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі **Анджэем Якімцам** рыхтуюць дакументальны спектакль, які будзе верным адлюстраваннем Народнага сходу з 1939 г., які праходзіў у будынку таго ж тэатра.

**Літоўцы** ў далейшым не згаджаюцца з прапановай размясціць у Пунску падраздзяленне Гранічнай стражы. На сустрэчы з прадстаўнікамі пагранічнікаў, Ваяводскай пракуратуры і паслом **Вальдамарам Пальчынскім** старшыня Згуртавання літоўцаў у Польшчы **Эўгеніюс Петрушкевічус** заявіў, што пасяленне ў Пунску 60 салдат з сем'ямі (прыблізна 240 чалавек), у якім пражывае 1000 літоўцаў, разбурыць нацыянальны склад мясцовасці і будзе парушэннем 3 пункта польска-літоўскай дэкларацыі, падпісанай 3 студзеня 1992 г. у Вільні.

Ад 24 да 26 ліпеня г.г. у Беластоку на стадыёне спартыўнага клуба „Гетман" праходзіў **Акруговы сход Сведкаў Яговы**. Адбываўся ён пад лозунгам „Носьбіты Святла". На працягу трох дзён адбыліся, між іншым, гістарычны спектакль з біблейскіх часоў, хрышчэнне новых вернікаў з паўночна-ўсходніх збораў, сімпозіумы, прэс-канферэнцыя. У Польшчы гэтая канфесія налічвае 107 тысяч вернікаў.

**Польскія мытні** на ўсходняй граніцы скантралявалі ў гэтым годзе звыш 8 млн. падарожнікаў. 70 працэнтаў турыстаў падвярглося дэталёваму кантролю. Некалькі дзесяткаў тысяч чалавек было вернута назад, канфіскавана 150 тысяч літраў алкаголю і каля 10 мільёнаў штук папяросаў. Быў забяспечаны тавар вартасцю ў 2,5 млд. злотых і валюта вартасцю ў 3,5 млд. зл.

**У пятнаццаць раз падаражэлі** аплаты за ўезд у Польшчу легкавых і грузавых машын праз КПП Брузгі на Беларусі (па другі бок Кузніцы). Шафёры легкавых машын і матацыклаў плацяць 150 рублёў, а грузавікоў — 500 руб. Льготамі могуць карыстацца толькі ахвяры аварыі на Чарнобыльскай АЭС, вучні і студэнты.

**Амаль сотня бабуль** з рэлігійнай арганізацыі „Цэнтр Багародзіцы" ўварвалася разам са сваімі святарамі на Чырвоную плошчу ў Маскве, не зважаючы на пратэсты міліцыянераў. Бабулькі хацелі ўвайсці ў Маўзалей і ўрачыста кінуць праклён на Уладзіміра Леніна, але ахоўнікі зачыніліся ў сярэдзіне і цырымонію праклінання давялося ім праводзіць на паветры.

**Футбольная каманда „Ягелонія"** з Беластока выехала ў Менск на запрашэнне клуба „Дынама". Цяпер у беластоцкай камандзе грае адзін з футбалістаў гэтага клуба **Віктар Сокалаў**.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Беласточчына ў час нямецкай акупацыі.
* Сезон на беларускія фэстыны.
* Праблемы белавежскіх беспрацоўных.
* Вяртанне Марка Шагала ў Віцебск.
* Працяг гісторыі Грыневічаў Вялікіх.

## Аб'ява

Група фірмаў з Беластока і Катавіцаў наладзіць гандлёвы абмен з фірмамі з Беларусі, Украіны і Расіі. Адрас: Sergiusz Ostapczuk, ul. Kotlarza 7E/4, 40-145 Katowice, tel. 1502009.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ЛАГЕР РАСПАЎСЯ, А ЖЫЦЬ НЕЯК ТРЭБА

Беларусь з афіцыйным візітам наведаў прэзідэнт Румыніі Іон Іліеску. У выніку перамоў Іона Іліеску са Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславам Шушкевічам была падпісана Дэкларацыя аб узаемаразуменні і дружалюбным супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Румыніяй. А дамова аб дружбе паміж краінамі будзе заключана ў канцы года падчас візіту кіраўніка Беларусі ў Бухарэст.

Дарэчы, абодва лідэры запэўнілі, што нават пры змене ўладаў /на верасень у Румыніі прызначаны прэзідэнцкія і парламенцкія выбары/ адносіны паміж нашымі дзяржавамі застануцца сяброўскімі, бо эканоміка Беларусі і Румыніі цесна ўзаемазвязаны.

### НЕ МАЙ 100 РУБЛЁЎ, А МАЙ 100 СЯБРОЎ

Днямі Беларусь была прынята ў Міжнародны валютны фонд і Сусветны банк. Такім чынам наша рэспубліка - чацвёртая з ліку краін былога СССР, якія ўступілі ў МВФ і СБ. Раней членамі гэтых арганізацый сталі Расея, Эстонія і Літва. Між іншым, неўзабаве з'явяцца і першыя крэдыты. У верасні Сусветны банк намераны выдзеліць Беларусі 80 мільёнаў долараў для падтрымкі прадпрыемстваў, што адчуваюць вялікі дэфіцыт сыравіны. Яшчэ 100 мільёнаў долараў будзе выдаткавана на структурную перабудову эканомікі рэспублікі.

### ГАРЫМ, БРАТКІ!

Амаль увесь ліпень на Беларусі бушуюць пажары. Агонь знішчыў ужо некалькі тысячаў гектараў лесу і тарфянікаў. Нават вялікая навальніца, што прайшла ў рэспубліцы на мінулым тыдні, не змагла адолець полымя, а пажарныя толькі рукамі разводзяць. Сімвалічна, што менавіта ў гэтыя дні ў Менску было адкрыта Вышэйшае пажарна-тэхнічнае вучылішча. Магчыма, праз колькі год мы і навучымся тушыць пажары.

### БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЎЗЯТА НА ЎЗБРАЕННЕ

У Міністэрстве абароны Беларусі адкрыліся курсы беларускай мовы. Як заявіў міністр абароны рэспублікі Павел Казлоўскі, вялікай цяжкасці з аваладаннем роднае мовы войска мець не будзе, бо ў асноўным нашы ўзброеныя сілы ўкамплектаваны беларусамі. Зрэшты, на тэрыторыі рэспублікі зараз знаходзіцца прыкладна 30-тысячнае расейскае войска, і хутчэй за ўсё ў бліжэйшыя 7 год яно не будзе выведзена, паколькі Расея мае вялікія праблемы з размяшчэннем сваіх салдатаў і афіцэраў.

### КАБ БЕЛАРУСЬ НЕ СТАЛА МАЧАХАЙ ДЛЯ ЭМІГРАНТА

У Беларусі створана дзяржаўная міграцыйная служба. Стварэнне гэтага ведамства падыктавана ўзросшай колькасцю бежанцаў у нашу рэспубліку. Толькі за ліпень у Беларусь іміграваў 45 сем'яў з Прыднястроўя. Увогуле, зараз у рэспубліцы афіцыйна зарэгістравана больш двух тысячаў бежанцаў. Служба міграцыі ўжо распачала актыўную работу па аказанню дапамогі бежанцам.

### НАШЧАДКІ БУДНАГА БУДУЮЦЦА

Днямі ў Менску быў закладзены падмурак будынка беларускае /па духу/ евангелічнае царквы /БЕЦ/. Дарэчы, пратэстанцтва мае вельмі глыбокія карані на нашай зямлі. Пачатак яму паклаў вядомы беларускі рэфарматар Сымон Будны. На жаль, у наш час вернікі БЕЦ не маюць сталага памяшкання і вымушаны збірацца ў бібліятэцы. Пакуль...

### КЛАСАВЫ ВОРАГ НЕ ДРЭМЛЕ?

Беларускія камуністы выступілі на абарону сваёй святыні - Дома-музея першага з'езда Расейскай Сацыял-дэмакратычнай партыі. Верныя ленінцы выставілі свае пікеты ля гэтага будынка. А разгарэлася полымя рэвалюцыі вось з-за чаго. Дом-музей узяў у арэнду амерыканскі святар Пол Мор. Ён намервацца выкарыстаць «калыску» бальшавікоў у дабрачынных мэтах. Камуністы палічылі сябе зняважанымі і кінуліся на абарону свайго храма ад класавага ворага. Ці ўдасца ім перамагчы - пакажа час.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

# „У МЯНЕ БЕЛАРУСЬ ЁСЦЬ АДНА”

Жыве на Смаргоншчыне былы выпускнік Віленскай беларускай настаўніцкай семінарыі, настаўнік-пенсіянер Віктар Піліпавіч Казлоўскі. Сёлета ён адзначыў сваё 70-годдзе. За плячыма - доўгае і нялёгкае жыццё, бо і яго, на жаль, не абмінуў вецер сталінскіх рэпрэсій. Вярнуўся на радзіму аж у 1957 годзе. Праўда, памяць захавала шмат. Але ў першую чаргу вобраз беларускага паэта і выкладчыка Франука Грышкевіча. Віктар Піліпавіч добра запомніў словы паэта: «Я - Франук Грышкевіч, а не Алесь Кучар, хачу напісаць гісторыю беларускай літаратуры».

Напісаць праўдзівую гісторыю беларускай літаратуры Франуку Грышкевічу не ўдалося. У канцы 1944 года ён быў арыштаваны органамі НКВД і пасаджаны ў мінскую турму. Тут і адбылася апошняя сустрэча семінарыста В. Казлоўскага са сваім настаўнікам Ф. Грышкевічам. Допыты ў яго праводзіў сам Цанава. Яны былі цяжкія і здзеклівыя. Ідучы на чарговы, Ф. Грышкевіч выскачыў праз акно на вуліцу і ... забіўся.



Франук Грышкевіч нарадзіўся ў 1906 /?/ годзе ў мястэчку Сухаволі Сакольскага павета на Беласточчыне. Рана застаўся без бацькоў. Пасля заканчэння Віленскай беларускай гімназіі, нелегальна перайшоў польска-чэшскую граніцу і паступіў на літаратурны факультэт Карлавага універсітэта ў Празе. Закончыў яго са ступенню доктара філасофіі.

Пасля вучобы вярнуўся ў Вільню, служыў у 6-м палку легіёнаў, працаваў у ротнай канцылярыі пісарам, нават быў беспрацоўным...

Калі нямецка-фашысцкія захопнікі напалі на Савецкі Саюз, Франук Грышкевіч застаўся ў Вільні. Акупацыйныя ўлады далі дазвол на функцыянаванне Віленскай беларускай гімназіі. Дырэктарам яе быў прызначаны Ф. Грышкевіч, дый выкладчыкі гімназіі засталіся ўсе тыя, хто працаваў раней.

Што дрэннага зрабіў ён за час свайго дырэктарства, цяжка сказаць. Хутчэй за ўсё гэта быў фальшывы данос, каб арыштаваць і знішчыць.

Франук Грышкевіч быў здольным паэтам, перакладчыкам, публіцыстам, аратарам. Свае творы друкаваў у многіх тагачасных беларускамоўных выданнях. А ў 1927 годзе ў Вільні ён выдаў свой адзіны




лірычны зборнік паэзіі «Веснавыя мэлёдыі».

Хочацца верыць, што прыдзе час і нехта з маладых беларускіх рупліўцаў збярэ ўсю яго спадчыну пад адну вокладку. А сёння застаецца толькі прапанаваць чытачам некаторыя вершы Франука Грышкевіча.

**СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН**

**ФРАНУК ГРЫШКЕВІЧ**

### РУСЬ БЕЛА

Ціха...
Тут грымелі ўчора громы,
тут гудзелі сталь - гарматны
і нікчэмны чорны троны,
як павеў вагню шалёны,
як панурай песьні тоны,
былі знакам кожнай хаты.

Ціха...
Тут і слёзы бурнай рэчкай,
тут і звон кайданаў ліха,
тут і гвалты й зьдзекі цечкай
зігацелі ярка сьвечкай
і шапталі нам за печкай:
«ціха, быдла, ціха, ціха».

Ціха...
тут і воля была пана,
ён быў даны нам царамі,
каб ад рана, аж да рана
наша скура была прана
і каб песьня была грана...
нам на скуры бізунамі.

Ціха...
Тут учора у капліцы,
на залочаным алтары
нас змушалі кроў праліці
і мільёны лбоў пабіці...
каб цара грэх замаліці
й вырваць з неба новы дары.

Ціха...
Тут учора на дыване,
мы самлелі у палацу
і малілі „пане, пане,
хай табе ўсё косьцяй стане,
хай твой сын на сьвет ні гляне,
дай хоць хлеба нам за працу”.

Ціха...
Тут і сяньня гром гарматы,
тут і сяньня звон кайданаў
і гнілыя нашы хаты
гэткі самыя багаты,
той сам пан сядзіць пракляты
й смокча нашу кроў із ранаў.

Ціха...
Сяньня сьлёзы буйнай рэчкай,
сяньня звон кайданаў ліха,
сяньня гвалты й зьдзекі цечкай
адгарэлі ярка сьвечкай
і крычаць нам то-ж за печкай:
«ціха, быдла, ціха, ціха».

Ціха...
Тут і сяньня воля пана,
пан сягоньня то-ж над намі
даглядае, каб шторана
наша скура была прана
і каб песьня была грана
нам на карку бізунамі.

Ціха...
Тут сягоньня у капліцы
на залочаным алтары
нас змушаюць кроў праліці
і таксама лбы пабіці,
каб грэх пана замаліці
й вырваць з неба яму дары.

Ціха...
Сяньня так-жа на дыване
мы тут млеем у палацу
і галосім „пане, пане,
хай табе ўсё косьцяй стане,
хай твой сын на сьвет ні гляне,
дай хоць хлеба нам за працу”.

Слухай!..
Шчупай, браце, шчупай рукі,
ці за локцям пацьвярдзела,
годзі гэтай страшнай мукі,
годзі панскае прынукі.
Мы гэрояў вольных ўнукі...
мусіць вольнай быць Русь-Бела!

* * *

Не пытай, не скажу я ні слова,
Дзе падзеўся з душы маёй май,
Хай абхопіць маўчаньне грабова...
Не пытай, не скажу я ні слова,
Не пытай, не пытай...
Не пытай, чаму вочы вагністы
Рвуцца гэндзе* ў далёкі той Край,
Дзе зіяе Усход прамяністы,
Чаму рвуцца там вочы вагністы...
Не пытай, не пытай...
Не пытай, не скажу я ні слова,
Дзе падзеўся з душы маёй май,
Хай абхопіць маўчаньне грабова...
Не пытай, не скажу я ні слова,
Не пытай, не пытай...

**гэндзе — там.*

**БЕЛАРУСЬ, БЕЛАРУСЬ...**

Беларусь, Беларусь, — што за дзіва!
Нейка дзіўная хваля цячэ,
Што Тваіх поль сухая крапіва
Маіх рук маладых не пячэ.
Беларусь, Беларусь, — што за зьява:
Нейкай зьявы таёмнай пацяг
Нада мною сьмяецца крывава
І вядзе на няведамы шлях.
Ах, куды ты вядзеш маладога,
Ты пагана й звадліва мана,
Не пайду!.. У мяне ёсць дарога...
У мяне Беларусь ёсьць адна!
На маім беларускім палетку
Расьце родны мне мой васілёк:
Я сарву гэту цудную кветку
І ўтаплю ў мае крові паток.
Хай нап'еццa атрутае хвалі,
Хвалі струтай нявольнай парой...
Й на палетку крывіцкае долі
Хай падзеліцца болем са мной.
І калі на крывавым улоньні
Блісьне ўжо васілёчкавы цьвет,
Я сарву й на алтары Пагоні
Палажу свайго сэрца букет.
Ах пакінь! Ах, пакінь маладога,
Ты пагана й звадліва мана,
Не пайду!.. У мяне ёсьць дарога
У мяне Беларусь ёсць адна!

**„КРЫНІЦЫ”**

Ты цякла
дзесяцiь год
у Народ
па лугу Белай-Русі зялёным:
і ніхто ня стрымаў
і ніхто не ўстаяў
насупроць
Тваім хвалям бялява-чырвоным.
„Беларусь” — вечны знак чыстых
вуснаў Тваіх,
Ты цалком захавала нам чары Пагоні;
Да Цябе ня прыстаў павеў ветраў
бурных,
што засеяў пыр'ём нашы гоні.
Цячы!
Гудзі!
Напярод,
Ня сьціхай!
Пакуль Край
у крыві —
Ты плыві і плыві...

* * *

Ах ты, чэшка маладая,
Чэшка вогністай крыві,
Ты на вока, як сьвятая...
Прытулі і абдымі!
Ах ты, чэшка, з дымнай Прагі,
І ў раскошнай хвальлі смагі
Дай мне, люба, утануць.
Ах ты, чэшка, з факультэту
Філязофіі старой,
Ходзь, схаваемся ад сьвету,
Ходзь-жа, чэшка, ходзь за мной.
Выбач нам, праслаўны Рыгер, *
Што мы ў твой садок ідзём,
Мы ня ўчынім там гармідар,
Мы нямую ціш нясём.
Верна дцэра * Яна Гуса,
Абыймі, чым наймацней,
Й зімна сэрца Бела-Руса
На сваіх грудзёх сагрэй!

** Рыгаровы сады ў Празе.*
** дцэра - дачка.*

**З НАРОДУ МЫ...**

З Народу выйшлі і ў Народ
Мы пойдзем поўны веры...
З народам пойдзем мы ўпярод,
Як верныя жаўнеры.
З Народам мы... Народ за нас...
Пад намі збройны коні...
Ах... годзі спаць!.. Ісьці ўжо час!..
Араць трэ' родны гоні.
Скарэй за плуг, хто жыў і дуж
Дзяры дзірван палетку...
Нясі сьвятло ў цёмну глуш,
Дай брату шчасця кветку.
З Народам мы!.. Хто ж проціў нас,
Хто йдзе супроць Народу,
Каму прамень надзеі згас,
Хто жджэ няшчасьця году —
Ах... проч ад нас!.. З Народам мы!
Бо дзеці мы Народу:
З Народам церпім мы адны
За Волю і Свабоду.

# КАМУНІКАТ Н–Р 4

Міжнародны камітэт беларусістаў інфармуе, што 19-20 чэрвеня 1992 г. у Гервятах Гродзенскай вобл. адбыліся пасяджэнні Беларуска-літоўскага навуковага круглага стала, прысвечанага Вялікаму Княству Літоўскаму. Апрача Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў /МАБ/ у яго арганізацыі прынялі ўдзел Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», літоўскі рух «Саюдзіс», інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі і Акадэміі навук Літвы. Гісторыкі абедзвюх краін прыйшлі да высновы, што Вялікае Княства Літоўскае было супольным утварэннем, якое з сённяшняга гледзішча можна вызначыць як літоўска-беларускую або - раўназначна - беларуска-літоўскую дзяржаву. У кулуарах сустрэча была ахрышчана як: «Гервяцкая унія».

У бліжэйшых планах МАБ - правядзенне міжнародных навуковых канферэнцый «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў» /Маладзечна, 19-20 жніўня 1992/, «Рым-IV» /Горадня, канец чэрвеня 1993 г./ і інш.

На працягу апошняга месяца атрыманы лісты, у якіх паведамляецца аб планах і ініцыятывах нацыянальных асацыяцый беларусістаў. Так, Польскае таварыства беларусістаў мяркуе правесці канферэнцыі пра польска-беларускія культурныя, моўныя і літаратурныя сувязі /лістапад 1992 г./ і «Творчасць Наталлі Арсенневай у кантэксце эміграцыйнай пісьменнасці» /чэрвень 1993 г./. Адрас таварыства - 02-678, Варшава, вул. Штурмова, 4.
Літоўская асацыяцыя беларусістаў /232055, Вільнюс, вул. Антакальнё, 6 / правядзе восенню чытанні, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Зоські Верас. Іх тэма - беларуска-літоўскае культурнае ўзаемадзеянне. Арганізацыйна аформілася Нямецкая асацыяцыя беларусістаў, якую ўзначаліў праф. Обст з Кёльнскага універсітэта.

На адкрыцці выставы беларускіх мастакоў Балтыі «Маю гонар» /27 чэрвеня 1992 г./ ад імя МАБ была выказана прапанова правесці выставу «Беларускае мастацтва замежжа» /сакавік 1993/, а затым на яе аснове стварыць нацыянальны музей «Беларусы ў свеце». Удзельнікі выставы ахвяравалі для іх першыя творы.

Пачаўся папярэдні збор заказаў на штогоднік «Беларусіка», які выдае МАБ супольна з Нацыянальным цэнтрам імя Ф. Скарыны.

МКБ выступіў як адзін з ініцыятараў стварэння акцыянернага таварыства «Кросны», якое аб'ядноўвае нацыянальна свядомых беларускіх прадпрымальнікаў.

**МІЖНАРОДНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСІСТАЎ**

# ФОТА–ВІТРЫНА




**Свята беларускай культуры. Беласток–чэрвень 1992 г.**

Калектыў Беластоцкага аддзела БГКТ.

*Фота Сяргея Грынявіцкага.*

## ЛІСТ АД ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ

# ...НЯМА ТАКОЙ ГАЗЭТЫ, ЯК НІВА...

Ада, дзень добры! Крыху мне сумна, самотна. Скончыліся „зьвярыныя" грошы. Крыху іх „замочвалі", цешыліся, што нарэшце маем свае беларускія грошы. І першы зборнік Алеся Чобата „Год" раптоўна зьявіўся! Высылаем табе яго... Каб прагнаць сум, чытаю „Ніву", перачытваю тваю амерыканскую аповесць „Іх папараць-кветка..." Паколькі газэта ляжыць не ў храналагічным парадку, я і чытаю твае рэфлексіі непасьлядоўна. І нібыта таксама па Амэрыцы вандрую. Так у тваёй Амэрыцы ўтульна і несамотна. Твая Амэрыка — цёплая, людзкая і жаноцкая.
Пісьменнікі з БССР езьдзілі ў складзе дэлегацый на Сэсыі ААН, а перад гэтым усё жыцьцё „запрацоўвалі" на такія паездкі, а вярнуўшыся, пісалі розныя недарэчныя выдумкі, каб спадабацца сваім дабрадзеям...
Я ніколі ня езьдзіла ў Амэрыку. Але сумна мне не таму.

Юрка Геніюш у годзе 80-м наведаў Лёндан, пасьля гэтак апавядаў:
„Уяві сабе, — кажа, — самы фантастычны, самы прыгожы сон, — але сон твой усёроўна паблекне перад тым, як яны там жывуць..."
Уявіць я не магла. Усё жыцьцё я сьню два сны. Адзін прыгожы. Я лётаю, нібы птах, над горадам, часьцей над полем, над лесам, над блакітнай ракою, вельмі высока лётаю, добра мне, прыгожа. Бывае, што лётаю з кім-небудзь, не адна. Прыемна прачнуцца. Цэлы наступны дзень праходзіць пад уражаньнем таго палёту ў сьне — таксама з добрым настроем. Страшны мой сон — гэта я іду праз Нёман па Старым мосьце, а мост змываецца вадой, масьнічыны расплываюцца пад нагамі...

Як можна гэта дастасаваць да заморскіх цудаў?

Тыж апавядаеш пра яву — пра краіну, дзе падумалі, каб людзям было зручна, нават каля Ніягарскага вадаспаду. Уяві, каб я прысьніла такі рэстаран, дзе плоцііш за ўваход — і набірайся, колькі ўлезе...
Прачнуўшыся, чакала б са страхам: якая хвароба зноў прычэпіцца... Ты ж дасканала апавядаеш пра тыя смакоты... Чытаць прыемна, маючы ў гаспадарцы адну „вавёрачку". („Вавёрачка" — 50 беларускіх капеек, або 5 савецкіх рублёў).

Ні ў кіно, ні ў кніжках я не чытала, як там купляюць, гатуюць, ядуць, колькі гэта каштуе, — каштуе не так і мала! — але яны ж не лічаць грошай! Я разумею, што яны, амэрыканскія беларусы, вас чакалі, рыхтаваліся, ашчаджалі... Але няўжо ніхто не папракнуў гасьцей дарагавізнай? Не паплакаўся? Калі так, то амэрыканскія беларусы перасталі быць беларусамі.
І няўжо там паміж вамі не было ніякіх канфліктаў, спрэчак і сварак?

Ну, хоць бы з-за Вялікага Княства Літоўскага. Ці ты палічыла пісаць пра гэта нетактоўна? Беларусы там проста зьбіраюцца, размаўляюць, моляцца, пяюць, узаемна цешацца таварыству, выдаюць адны на другіх даляры і ня высьмейваюць адны другіх? І дзеці дапускаюць сваіх маці да вытворчых і прыватных справаў без пагарды і фанабэрыі? Тут людзі сустракаюцца, каб напамінаць пра даўгі ды абавязкі. Дабрыня вымерла. Ніхто нікога ня любіць... Няхай дабрыня жыве хоць у Амэрыцы...
Прыемна чытаць твой аповяд пра Данчыка. Вельмі шкадую, што ён ужо ніколі ня спыніцца ў маёй кватэры і я ня здолею прыгатаваць яму гамбургера, пра якога ты так дасканала напісала. Калі Данчык гасьцяваў у нас у 1989 годзе, мы надта ганарыліся, што пачаставалі яго мёдам у сотах. Можа, каб зрабіць нам прыемнасьць, ён сьцьвярджаў, што раней не каштаваў мёду ў сотах...

Чытаючы, якія ў Амэрыцы зручныя краны, я ізноў успомніла, як Данчык па канцэрце і па вячэры, дзе яго замучылі любоўю, захацеў памыцца, а мая ванна была заваленая кветкамі, якія прынесьлі з канцэрту, а трубы ўжо былі забітыя пялёсткамі ад тых букетаў, а пад ваннай ужо стаяла лужына, бо краны працякалі, як заўсёды. Данчык заснуў бяз ванны.
Людзкі твой аповяд пра людзкую Амэрыку. Цікава, чаму гэта ўсе зь Менску ды Вільні не напісалі сваіх уражаньняў пра тое падарожжа, ці мо таму, што ў іх няма такой газэты, як „Ніва"?

Цалую цябе, Ада.
**Данута.**

6.07.1992 г.

# МАСТАКІ З ГРОДНА Ў ОЛЬШТЫНЕ

24 чэрвеня г.г. дырэктар Дома культуры ў Ольштыне Багдан Сяндлеўскі адкрыў выстаўку карцін гродзенскіх мастакоў. Свае работы ў горадзе над Лынай прэзентуюць Надзея Камісарава, Людміла Міхайлава, Георгій Сцяпанаў і Дзмітры Іваноўскі. Гэта не першая іх замежная выстаўка. Раней іх працы экспанаваліся ў Індыі, Нямеччыне, Галандыі і Афганістане. Карціны, якія можна глядзець у Ольштыне, пісаліся на працягу апошніх пяці гадоў.

Георгій Сцяпанаў нарадзіўся ў пасёлку Гельна над Ангарой у тайзе. Маляваць любіў з дзіцячых гадоў. Закончыў хімічна-тэхнічнае вучылішча ў Ангарску. У шасцідзесятых гадах пераехаў у Гродна, дзе якраз будаваўся азотнатукавы завод.
Сцяпанаў таксама займаецца рыбалкай, збірае грыбы і ягады. Дзякуючы гэтаму ён бачыў такуючых глушцоў, ведае многія віды лясных траў і кустоў, а ўсё бачанае пераносіць у свае нацюрморты. „Мастак падобны садаўніку або архітэктару, — гаворыць Г. Сцяпанаў, — які складае пейзаж з элементаў акружаючай прыроды, паводле прынцыпаў гармоніі сваёй душы".
Надзея Камісарава, таксама прысутная на адкрыцці выставы, гэта прыроджаны каларыст. Яна дабілася значных поспехаў у акварэлі. Жыццёвыя абставіны адлучылі яе на многія гады ад пэндзля і фарбаў. Аднак цяга да жывапісу перамагла і сёння гледачы могуць захапляцца яе пейзажамі.
Выставу на працягу двух тыдняў наведала звыш тысячы чалавек, а некаторыя карціны былі куплены жыхарамі Ольштына.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**25-10-1988 г.**

Białoruski koncert barokowy, «Kobieta i Życie», No 43. Рэцэнзія Кабатца на «Białoruś, Białoruś». Ён рэцэнзаваў яе некалі і «Іскрам», гэтак жа сімпатычна рэкамендуючы да друку. Не дай Бог, каб рабіў тое хто з нашых халопаў!

Учора - першы ўрывак «У беларускай Канадзе і далей». Падарожжа ў Паўночную Амерыку. У лістападзе напішу ўвесь цыкл.

Prawda o Kuropatach, «Polityka», 29-га. Пакутніцтва Беларусі, генацыд. Варашыльскі /неяк у пісьме/: шок ад Курапатаў грунтоўна зменіць беларускую псіхіку, штурхне народ да адраджэння...

Тысяча дзевяцьсот падпісчыкаў «Нівы» у БССР. Чагосьці такога ніколі не было! Гутарка з Лубам: замежная пазіцыя часопіса будзе ўтрымана тады, калі перастане дамінаваць у ім «гмінная» тэматыка і зробіцца ён для савецкіх аўтараў як шанц на публікацыю тых матэрыялаў, якія ў іх там не могуць быць надрукаванымі /формула рызыкоўная, але, наогул, ужо рэальная/.

**27-10-1988 г.**

Выклад у Беларускім Народным Універсітэце. Тэма: пачаткі дзяржаўнасці /Полацк/. Выматаны я. На шчасце, заўтра - у Крынкі!

«Палеская літаратура» - раскол беларускай нацыі! - перасцерагае Гілевіч /"ЛіМ", 21-га/.

**07-11-1988 г.**

4-га першае пасяджэнне Прэзідыума. Лагічнае, без куцельства. Каб так далей.

Аўтарская сустрэча ў пятым ліцэі /Старасельцы/. З нагоды 7 лістапада /арг. настаўніца Ларыса Гутнік; былі бел. песні, дэкламацыі, вучнёўскі дакладзік пра Беларусь/. Пасля ўсяго - аб'явілася група «беларусаў польскай мовы», якія, насуперак волі - і бацькоў сваіх, жадаюць быць сабою /непалякамі/. Дапытваліся яны ў мяне, як ім навучыцца гаварыць па-беларуску... Двух хлопцаў ужо пабывала на занятках Беларускага Народнага Універсітэта. Знак часу.

**9 лістапада 1988 г.**

«Kultura» публікуе інтэрв'ю „Styki iskrzą" /тое ж ад 24 жніўня/. І апавяд. «Budujemy się» у перакладзе Плютовіча /чамусьці не зазначана/. Будзе чарговы шумок, у Польшчы, дзе болей чытаюць ... З боку каталікаў?

«Гродненская правда» ад 22-га кастрычніка змясціла каланіяльную лаянку на «Талаку» і інш. У стылі расійскай імперскасці. У той дзень у Вільні бушаваў Sajudis.

Палякі дурэюць за Пілсудскім! Раптам усё паяснела... На нейкім вернісажы - Лёніка мала не схапіў інфаркт ад спеваў... Za Niemen, Za Niemen! 70-годдзе даты 11 лістапада.

**10-11-1988 г.**

З'явіўся з Варшавы - Зінок /амаль год быў у ЗША, зарабіў 6 тыс. долараў; нашы там яму дапамагалі/. Падкі на грошы халоп! І вар'ят крынкаўскі - думае ўцячы ў Паўднёвую Афрыку, куды бяруць лекараў без настрыфікацыі. Або, як мінімум, у Free Europe, у Мюнхене /едзе туды чагосьці/.

Прыйшлі студэнты /Каліна/. З просьбаю напісаць «Прысягу беларускага студэнта» /не хочуць акцэнтацыі лаялізму, выкраслілі ПНР/. На «Атрасіны».

У «ЛіМ»е - драма 30 кастрычніка ў Мінску, разгон беларускай дэманстрацыі.

Чарговы шок, які выштурхне сонцасць з беларусца? Хто ведае, ці не спецыяльна анімаваны... Як на тыднёвік, рэакцыя імгненная, ужо 4.XI.

Мартыненка - пра «Пожню» Петручука, робячы, пры нагодзе, з мяне... вядомага ў БССР пісьмен.

У «Ніве» - «XI З'езд БГКТ»: Рудчык адчуў тактыку майго ўдзелу. Зрэшты, відочную.

Пачалі - «У беларускай Канадзе і далей».

**11-11-1988 г.**

У Польшчы - свята незалежнасці, дэманстрацыі і шумеча, а нашы студэнты надумалі ... «Атрасіны». Было патрыятычна, з транспарантамі «70 гадоў БНР», «Жыве Беларусь». І тлумна.

Удзень выступаў Вапа перад польскімі - Białorusini są z wami! Белчырвона-белы сцяг.

*/Працяг будзе/*

*Тлумачэнні:*

*- халоп - маецца на ўвазе не сацыяльнае паходжанне, а маральны стан чалавека, які ганьбіць усенька сваё роднае, што наглядаецца незалежна ад адукаванасці, нават у асяроддзі нашых інтэлектуалаў; псіхалагічная рэштка феадальнага мінулага;*

*- Кабатца - Эўгеніюш Кабатц, польскі пісьменнік з беларускімі каранямі ў сваім радаводзе, вялікі прыхільнік беларушчыны; жыве ў Варшаве;*

*- Гілевіч - Ніл Гілевіч, паэт і вучоны, дзяржаўны дзеяч сярэдняга пакалення мінскіх палітыкаў; прафесар Беларускага універсітэта;*

*- «Талака» - назва аднаго з нефармальных гуртаў у БССР;*

*- Sajudis - назва апазіцыйнага руху ў тадышняй Літоўскай ССР;*

*- Прэзідыума - Прэзідыум ГП БГКТ, членам якога я быў да паловы 1991 г.*




## У СПРАВЕ КОНКУРСАЎ

Артыкул Яна Морданя „Справа конкурсаў", змешчаны ў „Адгалосках" („Ніва" н-р 23 ад 7 чэрвеня 1992 г.), прымусіў мяне ўзяць голас у палеміцы, якая датычыць раённага дэкламатарскага конкурсу, што адбыўся 8 лістапада 1990 года ў Бельску-Падляшскім. Хачу і я падзяліцца сваімі ўражаннямі, тым больш, што сам Я. Мордань у гэтай публікацыі прасіў, каб адазваліся настаўнікі, якія разам са сваімі вучнямі ўдзельнічалі ў гэтым конкурсе; да таго ж у яго артыкуле гаворыцца і аб вучаніцы са школы ў Храбалах, дзе я выкладаю беларускую мову.

Справа ўжо зусім не новая, паколькі ад гэтага часу мінула каля двух гадоў, але я на амнезію не хварэю і ўсё дакладна памятаю. Ян Мордань у кожным конкурсе, ці яго прасілі ці не, „пёрся" ў журы, а трэба сказаць, што, будучы ў журы, ацаняў неаб'ектыўна. Бо як можна справядліва прызнаць месцы, калі сам рыхтуючы вучняў ужо наперад заяўляў, што будзе ў камісіі і першыя месцы — запэўнены. На гэты раз Я. Морданя ў журы не ўключылі з увагі на просьбы настаўнікаў, паколькі:

— ніякі ён не эксперт у гэтых справах,

— ніколі ён не быў настаўнікам,

— а калі быў членам журы, так кіраваў камісіяй, што яго голас быў найважнейшы.

І вось настаўнікі, і слушна, рашылі ўзяць гэтыя справы ў свае рукі. Конкурс быў праведзены спраўна. Аднак штатнаму працаўніку ГП БГКТ, які сядзеў у кутку і па-свойму рабіў нататкі, было не даспадобы, бо абышліся без яго.

І пачалося...

На другі дзень прыехаў у школу ў Храбалы і пад непрысутнасць настаўніка сабраў дзяцей, якія бралі ўдзел у раённым конкурсе (сярод шасці — тры занялі месцы) і нанава іх праслухаў. Прадставіў свае заўвагі, ачарняючы заадно вынікі камісіі, вытыпаваў у Беласток яшчэ і Марту Алексяюк і даў ёй узнагароду, а ў размове з дзецьмі прапанаваў, каб яны з ім ехалі на агляд. Кожны чалавек мае свой погляд на дэкламацыю, майстэрства гэта ж не ўсё! Каб настаўнікі толькі кіраваліся майстэрствам, рыхтуючы да конкурсу! Было б цудоўна!

Я як настаўніца выступіла тады з просьбай да ўлад ГП БГКТ, каб іх штатныя працаўнікі не перашкаджалі ў працы настаўнікам і не рабілі такіх сюрпрызаў, не падрывалі аўтарытэт настаўніку перад вучнямі! Так што, пане Мордань, гэта не была скарга ў стылі пані Русачык, а просьба да ўлад ГП БГКТ у маім стылі. А калі яна не разглядалася як след, дык гэта ўжо не мая віна. Неяк дзіўна мне, што Вы, не ведаючы зместу скаргі, ведаеце яе стыль!!! Падвесці агульныя вынікі конкурсу ці даць інфармацыю пра іх — гэта не значыць, што конкурс быў цудоўна праведзены.

Хачу на канец сказаць, што конкурсы ў школьным 1991/92 годзе адбываліся ўжо без Я. Морданя. Праходзілі яны ў мірнай, спакойнай атмасферы, што выразна адчувалася, а з размоў з настаўнікамі відаць было задаволенасць і радасць з праведзеных конкурсаў.

**ІРЭНА ЕФІМЮК**

# ГРЫНЕВІЧЫ ВЯЛІКІЯ

*Працяг са стар. 1*

litewskich, a zapewne też i białoruskich. Osadnictwo ruskie, gęstsze bliżej Bugu, w ciagu XV w. posunęło się ku północy w kierunku Narwi wąskim klinem między wsiami od zachodu a rzeką Orlanką od wschodu. Władcy litewscy, aby umocnic swe panowanie na tych ziemiach, osadzili pod grodami i na szlakach głównych dróg pewną ilość wsi bojarów pochodzenia litewskiego i ruskiego, zobowiązanych do służby wojennej i zamkowej. Powstały osobne wysepki bojarskie litewsko-ruskie. Pod Mielnikiem tworzyła je wieś Moszczona, pod Drohiczynem Putkowice i Tąkiele, pod Bielskiem Hryniewicze..." *(Wiśniewski J., Osadnictwo Wschodniej Białostocczyzny. - Acta Baltico-Slavica t. XI, Ossolineum 1977).*

Паводле праф. Язэпа Ярашэвіча, бельска-віленскага гісторыка, навокал Бельска ўзніклі баярскія пасады, жыхары якіх мелі ахоўваць і абслугоўваць бельскі замак. Я. Ярашэвіч піша:

„ustawa włóczna Zygmunta Augusta, która mowiąc o szlachcie na bojarskich ziemiach w dobrach żmudzkich osiadłych, dodaje tylko, że jeśliby po ich zejsciu inni przez wykupy zostali bojarami, tacy powinność włóczną spełniać mają bo im już nie służy prawo szlacheckie. Prócz tego, jak pojedyńczy bojarowie, dosługiwali się w wojsku szlachectwa, tak i całe osady bojarskie po szczegółowej wyprawie ogółem otrzymali szlachectwo. O bytności takich osad natrąca też sama ustawa włóczna, ale wyraźniejszy tego przykład mamy na Podlasiu, gdzie dotąd kilka jest jeszcze okolic szlacheckich, których mieszkańcy, dziedziczne swe zaszczyty, winni są męstwu naddziadów. Byli to bojarowie w Hryniewiczach (Hornewicze), na Białej, na Woroniem, w Hożnie za Narwią, w Bańkach, którzy jak się z przywileju Zyg. Augusta r. 1569 na sejmie unijowym w Lublinie wydanym okazuje, należące przedtem do przesądu Zamku bielskiego i załogę jego składając, tym przywilejem od jurysdykcji i służby zamkowej uwolnieni, już na dworze brańskim, zarówno z inną szlachtą sądzić się mieli. Ukaz 1823 roku dnia 28 lutego wydany, wszystkich bojarów w guberniach zachodnich, pod opłatą podymnego na równi z innymi prostego stanu wolnymi ludźmi, podciągnął". *(„Obraz Litwy" Wilno 1844, cz. II).*

Цяжка, аднак, адназначна акрэсліць ролю, якую адыгрывала грыневіцкае баярства для бельскага замка. З пэўнай дапамогаю могуць прыйсці тут тапаграфічныя назвы. Інж. Барыслаў Рудкоўскін адшукаў каля Грыневіч Вялікіх урочышча Рудплавіска. Назва гэтая паходзіць ад ліманітавай руды-жалезняка (*„Ніва", 20/89*) ды слова „плавіць" —ператапляць. Значыць, магчыма, з пeратапленнем жалезнай руды мелі дачыненне грыневіцкія баяры.

Першыя датаваныя весткі пра Грыневічы і іх жыхароў прыносіць нам XVI ст. — „век падляшскай пісьмовасці". Канкрэтна адносіцца гэта да 1528 г. 14 мая 1569 г. грыневіцкая шляхта (баяры) супольна з усёй шляхтай Бельскай зямлі складваюць у Бельску прысягу на вернасць Польскай Кароне. У акце прысягі пералічана 48 чалавек з Грыневіч. Тут жа ўсе яны належаць *„de parochia Ruszka"* (значыць, да парафіі „рускай" — праваслаўнай). Гэты факт дадаткова даказваюць царкоўныя імёны грыневіцкай шляхты напр.: *Alexius, Sienko, Nikolaus, Ostapko, Chwiedor, Iwan, Onisz, Hricz, Siemion, Ihnath, Opanas, Anchim, Makar, Trochim і інш.* (прыводзім з лацінскага арыгінала з 1569 г. у: *„Akta Unii Polski z Litwą 1385-1791"; Kraków 1932).*

Акт 1569 г. ускосна паказвае нам на існаванне праваслаўнай царквы ў Грыневічах. Грыневіцкая шляхта ўжо даўно перад гэтым магла заснаваць уласны прыход. Першая вестка пра царкву ў Грыневічах паходзіць толькі з 1571 г. 14 чэрвеня таго ж года свяшчэннік Ільінскай царквы ў Грыневічах, а. Фёдар Яцковіч купляе ад тутэйшага земляніна Лазкі Мацкевіча двор разам з пабудовамі.

У „Купчай грамаце" адлюстравана таксама сардэчнасць, з якой адносіўся да свайго свяшчэнніка грыневіцкі землянін Лазко. Не ведаем, на жаль, нічога пра далейшыя ягоныя лёсы ды лёс а. Фёдара Яцковіча. Можна толькі здагадвацца, што ягоныя наступнікі, вымушаныя агульнымі абставінамі пасля 1569 г., падпарадкаваліся царкоўнай уніі праваслаўнай царквы з Рымам (год пераходу прыхода ў Грыневічах у унію — невядомы).

*(працяг будзе)*

**М.С. і Р.С.**



Ігар Варашкевіч ( КРАМА).



Слава Корань ( УЛІС ).



Віктар Шалкевіч.

# «БАСОВІШЧА» ТРЭЦІ РАЗ

### ЗАМЕСТ УСТУПУ

З выпадку III Фестывалю музыкі Маладой Беларусі «Басовішча-92" у Гарадку арганізатары рабілі захады і ў самога спадара Пётра Кузьміча. Але той, відаць, прызабыў нашу просьбу, бо запрошаныя дзеля ўдзелу ў фестывалі музыкі стаялі на пагранічных пунктах і па тры дні. Бесперашкодна ехалі гандлёўцы і торбахваты. Не без клопату абыйшлося і з польскага боку. Віцебскую „Грамаду" і іхнія інструменты афорімілі ў Кукурыках нібы гандлёвую пастаўку, а не музычны гурт. А здавалася б, што Польшча і Беларусь падпісалі ўжо ўсе магчымыя міждзяржаўныя пагадненні.

### ДЗЕНЬ ПЕРШЫ: ЗГЛАМЭЗДАЦЬ ПРАГРАМУ

У пятніцу 17 ліпеня у гарадоцкім Барыку з галюсенькай сцэны стрэліў на чатыры метры ўгару белы экран - хутка пачаў ён запаўняцца каляровымі надпісамі, гэтак званымі графіці. У выпрацоўцы мастацкага іміджу ўдзельнічала чалавек пятнаццаць - жанчына з летувіскага тэлебачання крычала на іх: «Ну пачакайце, не пішыце, зараз мне прынясуць камеру!» А тыя нічога, робяць сваё - «Cześć kacapy», «Homo sovieticus - таксама чалавек» і гэтак далей, пакуль усё палатно не пакрылася фарбай. Гэтак узнік фон для выступаў гуртоў і салістаў, а заадно і помнік маладзёжнай поп-культуры. Праз год, пэўна, будзе новы. Спяшайцеся музеі! Сімвалам сёлетняга «Басовішча» была выява гітары - жопа з ручкай, як кемліва заўважыў паэт /Анатоль Сыс/.

Арганізатары «Басовішча» задумалі ў гэтым годзе фестываль на тры дні - два конкурсныя і фінал /канцэрт пераможцаў/. У пятніцу было крыху клопату са скамплектаваннем конкурснай праграмы - на мяжы стаялі тры гурты, выступы якіх былі прадугледжаны на пятніцу вечарам. Замест іх арганізатары ўключылі ў конкурс віцебскі гурт «Вакзал» - яго выступ спярша прадугледжваўся на вольны мікрафон у нядзелю. Не даехала на пятніцу таксама двух салістаў - падмянілі іх дзве дзяўчыны з Менска. І такім вось чынам удалося зглямэздаць дзесяць пунктаў праграмы ў пятніцу.

Запачаткавалі фестываль салісты - спеў плюс гітара. Першай выступіла Альжбета Бэзюк - ветэранка «Басовішча», якая ўжо звыклася з гарадоцкай сцэнай, а і лучнасць з публікай у яе неблагая. Тое, што адбылося потым, прымушае крыху задумацца. Выступіла трох салістаў з Беларусі: Вольга Акуліч, Лана Медзіч і Сяржук Лаўнік. Іхнія спевы, з аднаго боку, запынялі дынаміку імпрэзы, а з другога ж гублялася дзесьці само мастацтва аўтарскай песні. Выявілася таксама і незразуменне самімі артыстамі формулы «Басовішча» - кульмінацыяй гэтага незразумення былі словы аднае з салістак: «У мяне ўражанне, што тут абсалютова сабраліся адны беларусы». Пасля сёлетняга «Басовішча» ясна адно - салісты і аўтарская песня гэта тэма на асобную імпрэзу. Ці будзе гэта «Нараўская восень» ці нешта іншае - справа людзей, якія захочуць наладзіць такое мерапрыемства.

Апошні саліст, які выступіў у пятніцу Віктар Шалкевіч, успалыхнуў публіку. Яго мастацтва не толькі што не гучыць на хвалях радыёстанцый у Беларусі, але і не надта ўспрымаецца там /здаецца, за справай нацыі, якую надта прапагандуе ў сваіх песнях/. Затое на Беласточчыне Віктар знайшоў верных сваіх слухачоў і фанатаў. Агульнае ўражанне такое, што якраз дзеля «Басовішча» Віктар Шалкевіч штогод прывозіць на Беласточчыну новую праграму.

Выступы гуртоў запачаткаваў гайнаўскі «Швэё» - назва дзікая і небеларуская, а да таго ж прыдуманая на гадзіну-дзве да канцэрта. Гурт гучаў моцна, але спеласці ў самой музыцы не наглядалася. Тхненне арыгінальнасці наглядалася затое ў музыцы менскага «Палаца» - старадаўнія песні ў сучаснай апрацоўцы /сярод інструментаў - труба і саксафон/. У музыцы віцебскага «Вакзала» вылазіла наверх расейшчына - інструменталісты ў гурце дасканалыя, але адчувалася, што музыкі наспех пераставіліся на беларускі рок.





Усё гучала неяк штучна ды не залазіла ў душу. Пасля «Вакзала» на сцэну увайшла менская «Крама» - гэта і было тое, што можна назваць беларускім па духоўнасці. Канцэрт «Крамы» пацвердзіў тое, што для гурту дастаткова адной індывідуальнасці, каб усё было добра /спяваў Ігар Варашкевіч, экс-Бонда, карані беларускага рока/. Канцэрт «Мроі», які і закончыў праграму першага дня, нічым не шакаваў бы, калі б не тая дробка макабрычнасці, якую прыдаў яму Сыс-шоў.

### ДЗЕНЬ ДРУГІ: БЫЦЦАМ УСЁ НАРМАЛЁВА.

Праз мяжу прарваліся два гурты: «Ален» і «Дзіда». Выглядала на тое, што атрымаецца багатая праграма. Пачала віцебская «Грамада» - гарадчане расчараваліся; не была гэта тая музыка, якой чакалі. Затым адспявалі салісты: Вальжына Цярэшчанка, Алесь Камоцкі, Лера Сом і Віктар Шалкевіч /другі канцэрт/. Першым сярод гуртоў выступіў англамоўны «Seven B» з Гародні. Публіцы спадабалася, але тэксты Дып Пэрпл пісаў ім напэўна не Ian Gillan. Пасля класікі гард-рока выступ «Алена» з Наваполацка быў ніякаваты. Калі хто добра прыслухаўся да канцэрта «Новага неба», дык было ў ім шмат арыгінальнага і крыху авангарду - уражанне аднак засталося такое, што Кася Камоцкая лепей гучала ў акампанеменце скрыпкі і віяланчэлі. Бальшыня кампазіцый «Мясцовага часу» гучыць як гіты, але гурт прадставіў, на жаль, старую сваю праграму. З усіх гуртоў, у якіх адчуваўся пераход ад расейскай музыкі да беларускай, абсалютным нумарам адзін быў «Талер» з Бярэсця - праз год, я так адчуваю, будзе з яго нармальны беларускі гурт. У суботу канцэрт «Талера» перапыніў дождж. Спынілася і «Басовішча».

### ДЗЕНЬ ТРЭЦІ: ПЕРШАЯ ЛІГА РОКА.

Конкурсную праграму давялося дакончыць у часе, прадугледжаным



Кася Камоцкая ( НОВАЕ НЕБА ).

на вольны мікрафон. Канцэрты прайшлі на малой сцэне, пад дахам. Там выступіў «Талер», а пасля яго «Уліс» - амаль паўтары гадзіны праграмы. Фан-клуб наскакаўся да паўсмерці. Закончыла конкурс дэдтраш-металам полацкая «Дзіда».

Чаканне вынікаў конкурсу праходзіла ў адчуванні пэўнай напругі. Пайшлі чуткі пра няправільнасць правядзення плебісцыту публікі. Былі гэта толькі чуткі - галасы падлічвалі Барбара Пякарская /Кучынская/ - старшыня Беларускага аб'яднання студэнтаў і Яўген Семянюк - войт гміны Гарадок. Ніякіх недакладнасцяў яны не сцвердзілі. У гэты самы час працавала журы «Басовішча» - вырашала яно пра галоўную ўзнагароду фестывалю і пра ўзнагароду для саліста.

А восьмай гадзіне вечара /дзве гадзіны спазнення/ пачаўся канцэрт пераможцаў - прайшоў ён на новай сцэне. У канцэрце выступілі: Віктар Шалкевіч /узнагароджаны саліст/, гурт «Палац» /узнагарода «Беларускай маладзёжнай»/, «Seven B» / II месца плебісцыту публікі/, «Мясцовы час» /узнагарода «Беларускай маладзёжнай»/, «Уліс» /I месца плебісцыту публікі, узнагарода Лявона Тарасэвіча за авангардныя якасці/, «Крама» /галоўная ўзнагарода «Басовішча», а таксама III месца плебісцыту публікі/.

У гэтым месцы хачу закончыць сваю фрагментарную справаздачу з сёлетняга «Басовішча». Да тэмы Фестывалю музыкі Маладой Беларусі будзем нераз яшчэ вяртацца на старонках «Нівы», бо шмат якія аспекты патрабуюць дэталёвай распрацоўкі. А пакуль - усё.

**ПАДЗЯКІ**

Беларускае аб'яднанне студэнтаў у Польшчы - галоўны арганізатар «Басовішча» - дзякуе за маральную і фінансавую падтрымку фестывалю:

1. Гміне Гарадок і войту Яўгену Семенюку ды Лявону Тарасэвічу - суарганізатарам «Басовішча».
2. Міністэрству культуры і мастацтва Польшчы.
3. Будаўнічаму прадпрыемству «Unibud».
4. Суполцы «Амега».
5. Аддзелу па грамадскіх пытаннях Ваяводскай управы.
6. Беластоцкаму радыё.
7. Ваяводскаму асяродку анімацыі культуры і Дарку Мойсаку.
8. Гайнаўскаму дому культуры.
9. Веславу Шэставіцкаму.
10. Раману Кардашу.
11. Гукааператарам гуртоў «Талер» і «Крама».

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**



Гурт ТАЛЕР з Бярэсця.

# ЯКОЕ „БАСОВІШЧА" ПРАЗ ГОД?

Найперш: а ці ўвогуле ўдасца яго арганізаваць?

Прыглядаючыся да таго, як Бася Кучынская (Пякарская) і Алік Максімюк стараюцца запанаваць над гэтай сапраўды гіганцкай у нашых абставінах імпрэзай, неадольна лезла мне ў галаву жахотная думка: зараз нешта заваліцца і „яны нас знікнуць". На самай справе нічога такога не сталася, і гэта ёсць адна з самых загадкавых загадак „Басовішча". Нават суботні дождж (не надта вялікі, але, так сказаць, злосны) не змяніў агульнага настрою і парадку фестывалю. Са сцэны гучала добрая (наогул) музыка, а публіка, як кажуць амерыканскія беларусы, мела добры час. Але ў арганізацыйным аспекце „Басовішча" апынулася на мяжы фізічных магчымасцяў студэнцкага асяроддзя. Так далей нельга. Калі б у наступным годзе арганізаванне імпрэзы мела зноўку зваліцца на плечы пару асобаў, лепш адразу сабе сказаць, што натужвацца нявarта і „Басовішча" спыняецца. Зашмат у гэтым годзе было арганізацыйных перабояў з уладкаваннем запрошаных музыкаў і гасцей, якім БАС меў забяспечыць жытло і правіянт. Адна справа, што з колькасцю гэтых людзей, відаць, пераборшчылі. Але другая — не было выразна акрэслена, хто менавіта мае займацца гэтым „сацыяльным" забяспячэннем фестывалю. Таму ўражанне ў нашых гасцей засталося далёка не самае лепшае. Нехта не атрымаў талонаў на вячэру ці снеданне, нехта не ведаў, у якой палатцы яму спаць — справы, магчыма, дробныя, але яны пакідаюць за сабою непатрэбны адпячатак расчаравання ці нават непрыхільнасці.

Таму справу „Басовішча" ў наступным годзе трэба было б пачаць ад вырашэння праблемы, дзе знайсці жытло і харчаванне музыкантам фестывалю. Найлепш было б пасяліць выканаўцаў у нейкім адным будынку (інтэрнаце? школе?). Пра гатэль у Беластоку, зразумела, не можа быць і гаворкі, бо грошай не назбіраецца. Але нешта таннае, крыху лепш забяспечанае „бытавымі выгодамі", чымсьці палаткі, абавязкова трэба падшукаць.

Другая справа, на якую трэба знайсці грошы, — гэта добрая гукаўзмацняльная апаратура. Мастацкі сэнс фестывалю — падаць публіцы добрую музыку ў добрым гукавым афармленні. Сцэну ў гэтым годзе „Басовішча" мела добрую — на яе трэба паставіць добрыя гукаўзмацняльныя апараты. Выканаўцаў, як усе пабачылі і пачулі, беларуская рок-музыка мае выдатных — таму было б недаравальным, калі б яны адмовіліся прыехаць да нас адно з-за таго, што мы не зможам паставіць якасную (адпаведную ўзроўню музыкі) апаратуру.

На што тут яшчэ панаракаць?

Тры дні „Басовішча", як аказалася сёлета, — крыху задоўга. Імпрэза страціла сваю дынаміку і цэльнасць. На рок хапіла б двух канцэртаў — у пятніцу і суботу. Арганізаванне часу ў нядзелю трэба было б перадаць Гміннай управе ў Гарадку. Гэта важнае яшчэ і таму, што старэйшай публіцы, якая зыходзіцца з Гарадка і наваколля, рок-музыка не надта „кладзецца ў вушы". Ім трэба нешта свойскае, забавова-вясельнае. Таму, калі арганізатары „Басовішча" хочуць заручыцца прыхільнасцю і падтрымкай жыхароў Гарадка, трэба вырашыць менавіта так: няхай у нядзелю са сцэны гучыць такая музыка, якую акцэптуюць і ўспрымаюць людзі старэйшага ўзросту.

Пра мерытарычны кшталт „Басовішча". Ужо пад час канцэртаў чуваць было галасы, што фестываль павінен стацца месцам прамоцыі адно рок-музыкі ў гуртавым выкананні. Аўтарская ці бардаўская песня, выконваная пад адну гітару, нейк губляецца ў Барыку і многа страчвае ад супастаўлення з забойнымі металёвымі пасажамі гуртоў. Гэта, несумненна, так, і трэба тут зрабіць прынцыповыя высновы. Значыць, рок-н-рол, а не даволі аскомны музычны эклектызм.

Нешта трэба прыдумаць з механізмам адбору выканаўцаў на „Басовішча". Нягледзячы на шмат высілку, укладзенага ў падрыхтаванне сёлетніх канцэртаў, на сцэне апынуліся выканаўцы, якія ніяк не ўпісваліся ў агульна-высокі ўзровень фестывалю. Адбор павінен быць болей строгі і патрабавальны. Значыць, браць не тое, што нам прапануюць, а тое, што мы хочам паслухаць. Пасля трох „Басовішчаў" арыентуемся зусім няблага, што дзеецца ў беларускай рок-музыцы. Інакш кажучы, калі не знойдзецца іншае выйсце, трэба правесці зусім аўтарытарны адбор: арганізатары запрашаюць адно тых, хто ім падабаецца, не праводзячы аніякіх кансультацый ні з кім па другі бок мяжы. Ад гэтага „Басовішча" можа толькі выйграць.

Ці будзе так, як мне тут думаецца? Аніякіх кардынальных перашкодаў няма. Патрэбна толькі, каб тыя дватры дзесяткі чалавек, якія будуць прымаць рашэнне аб „Басовішчы" нумар 4, захацелі цяжка над ім папрацаваць. Гэта ім адрасуецца мой тэкст. А Басі і Аліку, якія такую цяжкую працу выканалі сёлета, вялікае дзякуй.

**Стары рок-басалыга**



Бася Кучынская і Алік Максімюк.




# ЦАРКВА ПАД НАГЛЯДАМ

Што б мы сёння ведалі пра гісторыю Праваслаўнай царквы на Беласточчыне, каб не гіганцкая праца на гэтай ніве айца Рыгора Сасны з Рыбалаў? Праўда, апошнімі гадамі Р.Сасну „падмацоўвае" малады гісторык Антон Мірановіч, але ўсё ж такі ніводнаму з вучоных ці проста зацікаўленых праваслаўем не абысціся без публікацый рыбалаўскага даследчыка. Асабліва каштоўная ягоная праваслаўная бібліяграфія (дагэтуль выйшлі чатыры тамы), без якой цяжка, а хутчэй немагчыма было б дабрацца да мноства важных, цікавых крыніц.

Апошнім часам а. Рыгор Сасна ўцешыў нас чарговай кніжкай*). На гэты раз атрымалі мы падборку дакументаў, якія прадстаўляюць вобраз Праваслаўнай царквы на Беласточчыне ў міжваенны перыяд, бачаны вачыма тагачасных адміністрацыйных улад. Удакладняючы, публікацыя складзена са 114-ці выпісак з абшырных сітуацыйных справаздач беластоцкага ваяводы ці Ваяводскай управы ў Беластоку за гады 1928—1939, якія зараз захоўваюцца ў Ваяводскім дзяржаўным архіве ў Беластоку. Аўтар выдання захаваў арыгінальны правапіс, не выпраўляў ніякіх памылак, зрэдку толькі даючы ад сябе паясняючыя заўвагі.

Чытанне прыведзеных дакументаў вельмі ўцягвае. З чарговых старонак вырысоўваецца надта складанае, поўнае заблытанасці становішча Праваслаўнай царквы і яе вернікаў у II Рэчыпаспалітай. Трэба дадумоўвацца, што такія абумоўленасці выступалі не толькі на Беласточчыне, але і ў іншых усходніх ваяводствах. Дакументы беспардонна адкрываюць імкненні і дзеянні польскіх ураднікаў дзеля мэты надаць праваслаўю трывалыя польскія рысы, падпарадкаваць польскім нацыянальным інтарэсам, нарэшце цалкавіта адарваць ад усходніх карэнняў. Адкрываюць вострае саперніцтва паміж каталіцызмам і праваслаўем, якое вялося (і, дарэчы, працягваецца зараз!) на нашай зямлі. І яшчэ над усім гэтым кружыцца злавесны прывід уніі. Наглядаем таксама

*Ks. Grzegorz Sosna*

**KOŚCIÓŁ PRAWOSŁAWNY**
**na BIAŁOSTOCCZYŹNIE**
**w ocenie władz II Rzeczypospolitej**

*Wybór dokumentów*

**Sytuacyjne sprawozdania**
**Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku**
**z lat 1928–1939**

Ryboły 1991

на чарговых старонках, як улонне праваслаўя точаць (не без выразнага адабрэння ці ціхай падтрымкі дзяржаўнымі ўладамі) розныя расколы, секты. Знаёмімся з поўным дыяпазонам адносін да тагачаснай дзяржаўнай, веравызнаўчай і нацыянальнай палітыкі праваслаўнага духавенства, прыхаджан.

Некаторыя дакументы выклікаюць здзіўленне, іншыя абурэнне, а нават шакіруюць. А пры ўсім гэтым здзіўляе, як жа пранікліва назірала праваслаўныя асяроддзі дзяржаўная адміністрацыя. Цікавіла яе ўсё, нават падрабязныя здарэнні ў невялікіх праваслаўных прыходах. Дык неаднойчы не паўстрымоўвалася перад умешваннямі ва ўзніклыя сітуацыі, нярэдка зусім малаважныя. У дакументах прыкмячаецца яшчэ адна характэрная рыса — тэндэнцыйнасць у прад'яўленні і ацэнцы фактаў. Вельмі гэта ўражвае праваслаўнага чытача.

Публікацыю а. Р. Сасны адкрываюць: уводзіны пяра Антона Мірановіча і „замест уступу" Казімежа Урбана, а зачыняюць паказальнікі — імянны і геаграфічны. Спісак зместу — што абавязкова трэба адзначыць — бярэ пад увагу, апрача даты справаздачы, таксама праблемныя тэзісы. Дзякуючы такому аблягчэнню, чытач можа хутка сарыентавацца ў мерытарычным змесціве данай выпіскі. Ёсць і далучэнне — ксеракопія арыгінальнага дакумента, азагалоўленага „Szczegołowe sprawozdanie o parafiach prawoslawnych na terenie Wojewodztwa Bialostockiego jako komentarz do kwestionariusza". На II—IV старонках вокладак даецца тэкст „Часовых правіл аб адносінах Урада да Праваслаўнай царквы ў Польшчы", якія падпісаў 30 студзеня 1922 г. міністр веравызнанняў і грамадскага асвячэння Антоні Панікоўскі.

Публікацыя - крыніца рыбалаўскага даследчыка, магла выйсці дзякуючы падтрымцы шматлікіх асоб і ўстаноў, а асабліва старшыні Камісіі апекі над помнікамі старадаўнасці а. Анатоля Шыдлоўскага. Яе камп'ютэрны склад набіраўся ў Беластоку, на вул. Сураскай н-р 1. Графічна аформіў Уладзіслаў Петрук. Надрукаваў беластоцкі „Orthdruk".

Думаю, што з гэтай падборкай дакументаў павінен азнаёміцца кожны вернік Праваслаўнай царквы ў Польшчы.

**ПЁТР БАЙКО**

*)Ks. Grzegorz Sosna, Kościół prawosławny na Białostocczyźnie w ocenie władz II Rzeczypospolitej, Wybór dokumentów, Sytuacyjne sprawozdania Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku z lat 1928-1939, Ryboły 1991, ss. 116, IV.

## ЗАГАДКА ВА ЎМОВАХ ПАГРАНІЧЧА

Загадка, несумненна, з'яўляецца адным з самых старых відаў народнай творчасці. Аднак, першыя запісы і публікацыі на гэтую тэму з'явіліся даволі позна. Што датычыць беларускай загадкі, дык адбылося гэта ў XIX стагоддзі. На функцыянаванне загадкі ва ўмовах культурнага пагранічча, а менавіта на Падляшшы, першы звярнуў увагу Павел Чубінскі, які ў I томе выдадзеных у Санкт-Пецярбурзе ў 1872 г. „Трудов этнографическо-статистической экспедиции в западно-русский край, снаряжённой Русским географическим обществом" змясціў 35 беларускіх народных загадак, сабраных у ваколіцах Бельска-Падляшскага. Загадкай займаўся таксама Келясцін Брэн — настаяцель прыхода ў Старым Корніне. Адказваючы на анкету Імперскага рускага геаграфічнага таварыства, напісаў ён „Местное этнографическое описание Бельского Уезда состоящего в Гродненской Губернии" і ў канцы рукапісу змясціў 24 загадкі.

Якраз гэтай тэмай займаецца і Міхась Шаховіч, які апублікаваў нядаўна ў часопісе „Literatura Ludowa" артыкул „Народная загадка ва ўмовах польска-беларускага культурнага пагранічча"*/. У ім аўтар праводзіць аналіз загадак, сабраных на Беласточчыне. „На працягу часу, — заўважае даследчык, — загадкі падвяргаліся сістэматычным уплывам і ўмяшанням як у мову, так і ў тэкст. Гэта было і ёсць абумоўлена грамадскай сітуацыяй, культурай дадзенай групы, у якой функцыянавала загадка, і светапоглядам асяроддзя. Асабліва гэта наглядаецца ва ўмовах культурнага пагранічча, дзе тэкст загадкі падвяргаецца пастаяннаму працэсу пранікання культур. У многіх прыкладах цяпер ужо цяжка ўстанавіць культурныя крыніцы, якія далі пачатак паасобным загадкам, бо цяпер яны з'яўляюцца кангламератам розных моў, дыялектаў і гаворак".

На польска-беларускім культурным пагранічччы, а такім ёсць Беласточчына, сустракаюцца польскія і беларускія загадкі з рускімі і ўкраінскімі моўнымі ўплывамі. Гэта вынік суседства і доказ таму, што культура не ёсць з'явай герметычнай. Ва ўмовах Беласточчыны польская мова была і ёсць мацнейшая і больш экспансіўная, што выклікае асіміляцыю. Загадка ў беларускай культуры захоўвала сваю нязменную постаць, на польскім грунце ўзнікала яе моўная копія, а з часам узнікалі два яе моўныя варыянты з аднолькавым адказам. Тое ж самае адбывалася з польскімі загадкамі, якія траплялі на беларускі грунт і там прыжываліся. Да артыкула прыкладзены дадатак, у якім прыводзяцца 52 прыклады польскіх і беларускіх варыянтаў загадак.

„... загадка, — канстатуе аўтар, — мела ў жыцці розных народаў не толькі развесяляльны, але і культавы характар і спадарожнічала розным абрадам — абразанню, шлюбу, пахавінам. Яе, так як і іншыя віды вуснай народнай творчасці, перадавалі з пакалення ў пакаленне. На сваім шляху яна або губляла адны слоўныя элементы, якія замяняліся іншымі, або часам захоўвалася яе архаічная форма, якая ў значнай ступені была ўзорам для стварэння новых загадак. Метафарнасць, вобразнасць, жартаўлівасць — гэта галоўныя элементы, якія дазволілі пратрымацца загадцы такі доўгі перыяд і ўвесь час быць жывой".

**В. Луба**

* Michał Szachowicz, Zagadka ludowa w warunkach polsko-białoruskiego pogranicza kulturowego, w: Literatura Ludowa, nr 1—6, (XXXIV), 1991 r.




**Дарагое Сэрцайка!**

Чытаю інтымныя споведзі дзяўчат і думаю. Чаму ж так цяжка сустрэцца ў гэтым свеце мужчыне і жанчыне, якія б знайшлі гармонію кахання і сямейнага шчасця? Расчараванні, незадаволенасць, комплексы нейкім кашмарам запаўняюць лепшыя гады нашага жыцця. Я цаню ў жанчыне жаночасць, пяшчотнасць, спакойны нораў, адданасць сям'і, любоў да дзяцей. Няўжо гэта завышаныя запатрабаванні для каханай і жонкі? Часам здаецца, што так.

Санкт-Пецярбург (былы Ленінград) велічнай дэкарацыяй былой імперыі стварае фон нашага штодзённага жыцця, у якім, на мой погляд, даўно згубілася шчырасць інтымных адносін. Дзяўчаты часта гатовы „сябраваць" з любым іншаземцам нават за якую-небудзь цацку або гуляць у рэстаранах з багатымі іградзякамі. Адкрыты цынізм і спажывецтва даўно сталі прыкметай майго пакалення. Пры ўсім я не ўпрыгожваю сябе. Відаць, занадта ідэаліст, непрактычны. Толькі не падабаецца мне галас і вэрхал гэтых „практыкаў".

На Палаччыне (радзіме маіх бацькоў) можна шукаць ціхай патрыярхальнасці і вернасці традыцыям. Але толькі не ў маіх равеснікаў. І тут дзяўчаты хочуць выглядаць на „сталічных ды рускіх". Мае сябры смяюцца з мяне, а самі ўжо хаця б па разу разводзіліся з жонкамі.

Сэрцайка, можа на Беласточчыне я знайду дзяўчыну, з якой спазнаю шчасця. Я ў свой час служыў у Польшчы ваенным вадзіцелем у расейскім войску. Праехаў усю краіну, пабачыў шмат. Даведаўся пра суайчыннікаў, якія лепш за БССР захавалі душу нашага народа і праваслаўе. Ці зноў ідэалістычная мая надзея?

Аднак я самастойны чалавек. Маю 27 год, 190 см росту. Працую майстрам на буйным прадпрыемстве „Светлана". Мой адрас:

**Россия**
**193358 С-Петербург**
**ул. Есенина, 32 корп. 1 кв.332**
**Подмастерьев Александр**

Усяго добрага
Аляксандр

Шаноўны Аляксандр!

Жанчыны і мужчыны, якія знаходзяць гармонію кахання і сямейнага шчасця, вельмі рэдка звяртаюцца за парадамі. Навошта яны ім?! Яны ж і так шчаслівыя... І таму не згаджаюся з табой, што „расчараванні, незадаволенасць, комплексы нейкім кашмарам запаўняюць лепшыя гады нашага жыцця". Не ўсе гады і не ўсіх.

Але часамі камусьці не шанцуе. Або не можа трапіць на свайго, або залішне скромны, спакойны, а мо нават і з нейкай боязню, што не спадабаецца партнёру з-за нейкіх там, часцей толькі яму вядомых, прычын.

І яшчэ не згаджаюся, што ўсе пецярбургскія дзяўчаты гатовы сябраваць за нейкую цацку (абы з чужаземцам) ці гуляць у рэстаране з абы-кім, каб толькі быў багаты. Гэта ўжо будзе, бадай, асобная катэгорыя жанчын.

Той „цынізм і спажывецтва", што сталі прыкметай твайго пакалення, не зусім чужы і нам тут, у Польшчы. Маю аднак надзею, што беларусак ён не трымаецца. Таму даю твой адрас і спадзяюся, што адна з тых добрых дзяўчат адгукнецца на твой ліст.

# Зорка
## Старонка для дзяцей



*Перад купальскім вогнішчам – Дзіяна, Маргарыта і Паўлінка.* **Фота Міры Лукшы**

Авяр'ян Дзеружынскі

## БАЯВЫ КОНІК

### КАЗКА



Між высокае травы
Скача конік баявы.
У яго мундзір зялёны,
Залацістыя пагоны,
Сам вясёлы ён,
Дабрак,
І звычайна
Кажа так:
- Я пакрыўджаным,
Слабым
Памагу,
Збоку я стаяць ніколі
Не магу,
Хто патрапіў
У бяду,
Ратаваць таго
Іду!

Ён на дзягіль
Спрытна ўзлез,
З вышыні
Зірнуў на лес.
Бачыць -
Жук-насарог
Матылька
Нібы запрог,
Прымушае
Чысціць рог!

Конік выцерпець
Не мог:
Рог той
Востры такі -
На ім гінуць
Матылькі.
- Матылёк,
Я табе памагу,
Збоку я стаяць ніколі
Не магу!..

Шпоры вострыя
Тырчаць,
Вусы доўгія
Блішчаць,
Востра шашка
Пры баку:
- Дай свабоду
Матыльку!

Засмяяўся
Грозны жук:
- Я сагну цябе
У крук!

Крыкнуў конік:
- Я з табой
Пачынаю
Люты бой!..

А тым часам матылёк
Пырхнуў крыльцамі -
І ўцёк.

Разззлаваўся жук,
Гудзе
І на коніка
Ідзе.
Конік хутка
Скок - убок
І смяецца
Як знарок.

Жук вурчыць,
Буркачыць,
Зноў на коніка
Імчыць.
Але той -
Яшчэ раз -
Скок
І схаваўся
За пянёк.

Не ўлічыў
Разгону жук
І ў той пень
З размаху -
Грук!
Ушчаміў
Так моцна рог,
Што і выцягнуць
Не змог.

- Ой, баліць, -
Ён крычыць, -
Што рабіць?!
Што рабіць?!

- Не бядуй вельмі,
Жук,
Памагу,
Збоку я стаяць ніколі
Не магу!..

Конік выцяг
Рог жука,
Адпусціў
Здаравяка:
- Матылькоў
Не чапай,
Пакараю,
Так і знай!

Жук
Зрабіў на месцы круг:
- Ты цяпер -
Мой лепшы друг!
Буду сам я
Чысціць рог,
Дзякуй, конік,
Што памог.

## КАЗКА КЛЯКСЫ-ВАКСЫ

Ляжаў-палёжваў у агародзе Гарбуз. І была ў яго сяброўка Вішанька. От ён ляжыць і пытаецца аднойчы:

- Што ты бачыш зверху?

- Неба і сонца.

- Яны і мне трохі відаць. Толькі галлё тваёй вішні замінае глядзець. Ды і ты сама.

- За хатай - вуліца. А па ёй машыны бегаюць, - расказвала далей Вішанька.

- О, гэтага я ніколі не бачыў. А што яшчэ?

- За вуліцай - поплаў, а там дзеці мячык ганяюць.

- І мне хочацца да іх, - зачмыхаў Гарбуз.

- А яшчэ бачу...

- Ой, пачакай, - папрасіўся тоўсты лежабока. - Ведаеш што, давай з табой паляцім, свету пабачым.

- Давай, - весела згадзілася Вішанька. - Так надакучыла сядзець на адным месцы...

Яны адарваліся і паляцелі.

Вішанька, як зорачка, зіхацела ў небе і ўсё шчабятала:

- Ой, як добранька гуляць.

- Не вельмі лётай, каб якая варона цябе не глынула.

- За мяне не турбуйся, я вёрткая, - засмяялася Вішанька і пачала ўздымацца ўсё вышэй і вышэй.

А Гарбуз палятаў адзін і, сумны, вярнуўся.

- Лепей няма нічога на свеце, як свой агарод, - сказаў ён.

Так і праляжаў пад плотам, пакуль не згніў.

А Вішанька не вярнулася дамоў. Мо зоркай стала ў небе?..

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

## ДЗІЎНЫ ГОСЦЬ

Неяк раніцай я выйшла на двор, каб наліць малака кату. Ён у нас ціхі і сарамлівы. Сядзе на ганку, заплюшчыць зеленаватыя вочы і чакае, калі яго паклічуць. Наліла малака ў міску, клічу ката. І тут заўважыла шэры камячок, які прабег ля маіх ног і схаваўся ў кусціках мяты. «Хто б гэта мог быць?» - зацікавілася я. А шэры камячок зноў прабег паўз мяне і спыніўся ля міскі з малаком. Гэта быў маленькі вожык. Ён пачаў спакойна хлябтаць малако.

У гэты час з'явіўся кот. Дзіўна, але на вожыка ён не звярнуў ніякай увагі, быццам бачыў яго ў двары не першы раз. Аднак да міскі не падышоў, стаяў ля госця, чакаючы сваёй чаргі.

Назаўтра вожык наведаўся зноў. Ён так асмялеў, што дазваляў трымаць міску, пакуль хлябтаў малако. Спадабаўся мне наш госць. Калючкі ў яго шэрыя, знізу - мяккі падшэрстак. Кароткія, але моцныя ножкі. А на выцягнутай мордачцы чарніцамі блішчалі вочы.

Вожык пасябраваў з катом і цяпер прыбягае ў наш двор кожны дзень.

**ЛАРЫСА ШЫПУЛЯ**



*Бабуля, матуля, унучак – усе пяюць! На здымку Люба Гаўрылюк, Аля Дубец і Давід Дубец.*
**Фота Міры Лукшы**

# ІЛЬЯ

Святы пpapoк Ілья, дзякуючы сваёй набожнасці і змаганню за пашану Бога, быў узяты жывым на вогненнай калясніцы на неба. Паводле хрысціянскіх уяўленняў , ад святога Ільі залежыць насыланне дажджоў, а значыць - ураджай. На Ільчо стараліся не працаваць, каб не прагнявіць гэтага найпапулярнейшага ў народзе святога, які, раз'язджаючы з грукатам па небе, можа наслаць пажары, засуху на зямлю. Таму звычным лічылася, што Ілья ў свой дзень павінен прыйсці з дажджом: «Ілля наробіць гнілля».

Існавалі на гэта свята больш-менш рацыянальныя аграрныя і метэаралагічныя назіранні: «Калі дождж - будзе жыта ядронае, але маланка папаліць арэхі; калі пагода - павінен быць добры сенакос; калі спякота - трэба чакаць працяглай зімы». Ад Ільі звычайна пачыналася жніво: «Святая Ілля - слаўная жняя», «Свята Ілля копы лічыць». Выспяванне жыта часам вывяралі па ягадах у лесе: паспелі на Ільчо чарніцы, значыць, паспела і жыта. Тады ўжо прыказка вуснамі дбайнай гаспадыні сцвярджала: «На Іллю поўну печ хлеба наллю». Дзесьці каля Ільі трэба было «брацца да раллі» - пачыналі араць паравое поле, рыхтуючы спакваля да сяўбы азімых: «Да Іллі хоць адным зубам зямлі парні». Свае назіранні мелі і бортнікі: паводле іх сцвярджэнняў, надзейныя раі былі тыя, што выйшлі да Ільі, пасля ж гэтай даты раі амаль нічога не вартыя і іх лепш не асаджваць, а адпускаць.

Дзень Ільі ўспрымалі як рубеж паміж летам і восенню: «Ілля жніво пачынае, а лета канчае», «На Іллю да абеду лета, а па абедзе восень», «Да Іллі поп просіць Бога пра дождж, а з Іллі і баба хвартухом яго пагоніць». І яшчэ адна прыкмета: «Прыйшоў Ілля і ўкінуў у ваду алядня» - менавіта з гэтага дня забаранялася купацца. Калі, маючы на ўвазе паступовае скарачэнне дня, пра папярэдніх святых гаварылі, што «Пётра-Павел час убавіў», то на гэта свята дабаўлялі: «Ілля-прарок - два ўвалок».

**УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ**

# ЯБЛЫК

Дзед быў на рынку і купіў сабе яблык. Вялікі, з залацістымі бакамі і празрысты. Нават зярняткі відаць. Пакруціў дзед у руцэ яблык, хацеў з'есці, ды перадумаў:

- Занясу дадому. Дзяцей пачастую.

Дома дзед аддаў яблык унучцы Ніне.

- Ой, які яблык вялікі! - усклікнула Ніна. І толькі яна хацела адкусіць, як прыйшла з работы маці.

- Мамачка, - сказала Ніна, - ты стамілася. Вазьмі, з'еш яблык.

Маці падзякавала Ніне, узяла яблык, палюбавалася ім.

- Я Міхаську пачастую. Ён жа ў нас самы маленькі, - сказала маці. І калі Міхаська вярнуўся з дзіцячага сада, аддала яблык яму.

Міхаська нават ножкамі затупаў ад радасці, такі яблык яму далі - вялікі, залацісты, прыгожы!

Ён дастаў са скрынкі ножык, паглядзеў на дзеда, маму, Ніну і разрэзаў яблык на чатыры часткі.

- Гэта, дзядуля, табе, гэта маме і Ніне, - падзяліў ён. - Ешце, калі ласка.

Смачны быў яблык. Салодкі, сакавіты. Усе елі і хвалілі Міхаську. А больш за ўсіх хваліў дзядуля.

**ВАСІЛЬ ХОМЧАНКА**

# КАЖАНЫ

Кажаны - вельмі карысныя звяркі, але яны мала вывучаны і даследаваны вучонымі з-за таго, што вядуць начны лад жыцця. Калі ў змрочным небе бачыш у палёце кажаноў, здаецца, што ўсе яны аднолькавыя. Але гэта не так. Кажаны адрозніваюцца велічынёй, формай галавы, вушэй, крылаў. У адных вушы круглыя, у іншых вострыя, у трэціх - маленькія, а ў чацвёртых - даўжэйшыя за цела. І футра ў кажаноў рознае - рыжае, чорнае, палевае, серабрыста-шэрае і нават залацістае. Бываюць кажаны буйныя, большыя за шпакоў, а іншыя - меншыя за матылёў. Селяцца звяркі таксама па-рознаму. Адны жывуць у дуплах, другія на гарышчах ці пад шалёўкай. Звычайна кажаны ўтвараюць вялікія калоніі, у якіх бывае да сотні асобін, іншыя жывуць у адзіночку. У канцы лета пачынаецца шлюбны перыяд, але дзіцяняці (адзін або два) нараджаюцца толькі праз год, у канцы мая, у чэрвені. Да 2 тыдняў маці корміць іх сваім малаком, а потым пераважанымі насякомымі. Усе рукакрылыя нашай краіны - насякомаедныя.

Напрыклад, калонія начніцы вадзяной у 20-30 асобін за лета знішчае да паўтара мільёна камароў. Кажаноў у Беларусі 15 відаў, з іх 9 відаў пералётных і 6 - аселых. Апошнія праводзяць зіму ў склепах, падвалах, гумнах. Пералётныя з наступленнем зімовых халадоў часта разам са стрыжамі і ластаўкамі ляцяць у вырай у цёплыя краіны.

У сярэдзіне мая кажаны вяртаюцца ў Беларусь. Тэрмін жыцця рукакрылых - 20-25 гадоў.

**А. КУРСКОЎ**






- Ты забыўся і ручку, і сшыткі. Як называецца салдат, які ідзе на вайну без зброі?
- Ведаю. Генерал! - упэўнена адказаў вучань.

xxx

Чатырохгадовы Івасік кажа свайму бацьку:
- Я ажанюся з бабуляй.
- Глупства кажаш, ты ж не можаш ажаніцца з маёй мамай!
- А чаму ты мог ажаніцца з маёй?!

xxx

- Чаму людзей больш на свеце, чым малпаў?
- Не ведаю, не перашкаджай, Пятрусь!
- А я ведаю! На дрэвах ...цяжка размнажацца!

xxx

Сашка пытаецца праз адчыненыя дзверы ваннай:
- Мама, якую сёння апранаць кашулю: з доўгім, ці з кароткім рукавом?
- А навошта пытаеш?
- Бо не ведаю, дакуль мыць рукі!

xxx

Бабуля кажа сваёй унучцы:
- Ты будзь добрай, паслухмянай, бо прыйдзе воўк і з'есць цябе, як Чырвоную шапачку...
- Ведаю, ведаю... Але ж ён спярша з'еў бабулю?!

Браты прынеслі дахаты табель паспяховасці і пачалі параўноўваць адзнакі. Аказалася, што ў іх аднолькавыя адзнакі: двойкі ды тройкі.
- Вось бачыш! - усклікнуў малодшы. - А мама кажа, што мы ні ў чым не падобныя...

xxx

Што ты атрымаў за кантрольную па матэматыцы, сынок?
- Чатыры плюс два, падзеленае на тры...

xxx

- Тата, я сёе-тое падару табе на дзень нараджэння.
- Самым лепшым падарункам для мяне будуць твае добрыя адзнакі ў школе.
- Позна, тата! Я ўжо купіў табе гальштук.

xxx

- На што скардзішся? - спытаў урач-акуліст хлопчыка з доўгімі валасамі.
- Доктар, нешта я стаў кепска бачыць.
- Ну, а я наогул не бачу ў цябе вачэй. Схадзі на прыём да цырульніка, а потым ужо да мяне.

Дзядуля дакарае ўнука:
- Двойка па гісторыі. Калі я хадзіў у школу, па гісторыі былі ў мяне толькі пяцёркі!
- Але ж тады гісторыя была карацейшай.

xxx

Брат пытаецца ў старэйшай сястры:
- Чаму мама заўсёды праводзіць тых, хто да нас прыходзіць у госці, аж да самых дзвярэй?
- Каб пераканацца, пэўна, што яны сапраўды пайшлі.

xxx

Маленькі Івасік звяртаецца да свайго малодшага брацікa:
- Гэты нож брудны. Не рэж ім сыр.
- Як гэта - брудны? Я ж толькі што рэзаў ім мыла!..

xxx

Пятрусь прыходзіць у школу і пытае настаўніцу:
- Ці можна караць кагосьці за тое, чаго ён не зрабіў?
- Звычайна, не.
- Ну тады я не зрабіў урокаў!

**(В. Б.)**

# НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Пры заходзе сонца неба зацягваецца з поўначы - будзе вецер.

Высокая і крутая вясёлка - будзе вецер, пахілая і нізкая - дождж.

Калі месяц шчарбаты - звычайна бывае дождж.

Буслы кружацца высока - доўга будзе стаяць добрае надвор'е. Буслы высока ўзлятаюць - сонейка заклікаюць.



*Лета.*
**Фота Л. Рублеўскай**




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела), Варшава 1928.**

— 67 —

**БЕЛАРУСКІЯ СПРАВЫ У КОВЕНСКАЙ ЛІТВЕ**

**Раздзел XXVII**

**Беларускае міністэрства. Адносіны з літоўскім урадам. Зварот канфіскаваных немцамі беларускіх грошай. Літоўска-савецкая агітацыя. Праекты літоўска-беларускай федэрацыі. Адносіны беларускіх дзеячоў да Ластоўскага.**

Беларуская справа развівалася не толькі на тэрыторыі Цэнтральнай Літвы. Праяўлялася яна таксама ў Польшчы, Ковенскай Літве і ў Савецкай Расіі.

Разглянуўшы праявы і гісторыю беларускага руху ў Цэнтральнай Літве да перадвыбарчага 1992 года, зоймемся беларускім рухам у Ковенскай Літве, дзе развіваў дзейнасць галоўным чынам беларускі прэм'ер-міністр Ластоўскі.

Як ужо было заўважана, немцы дазволілі стварыць у 1917 годзе т.зв. Тарыбу, часовы ўрад Літвы. Літоўцы, прыхіляючыся да ідэі федэрацыі з беларусамі, стварылі Беларускае міністэрства, апрача гэтага запрасілі ў Тарыбу шэсць беларусаў як міністраў урада.

З таго часу адносіны часткова змяніліся. Беларускае міністэрства было ўстановай, якая ўтрымлівала кантакты з беларускім рухам. Пачаткова для літоўцаў рух гэты быў месцам няшчырай палітычнай спекуляцыі. На беларускага міністра і падначаленых яму чыноўнікаў глядзелі як на няпрошаных гасцей, якія не прыносяць карысці і выкарыстоўваюць кожную нагоду да стварэння канфліктаў. У 1920 годзе быў затрыманы кур'ер беларускага міністра, які ехаў у Маскву. У сувязі з гэтым быў праведзены вобыск і наступіў хвілёвы арышт усяго персанала беларускага міністра. Тагачасны беларускі міністр Язэп Варонка — кіраўнік беларускіх сацыял-федэралістаў, рашучы працаўнік Польшчы, палічыў немагчымым аставацца на функцыі міністра; падаў у адстаўку і аб'явіў пратэст супраць літоўскага ўрада, просячы адначасна Вярхоўны Савет у Мінску, каб выстараўся для яго ў польскіх улад дазвол на яго вяртанне на радзіму.

Беларускім міністрам стаў Сямашка, чалавек. які не характарызаваўся спецыяльнымі здольнасцямі, у сэнсе палітычным — мізэрота, пасіўны інструмент у руках літоўцаў.

Беларуска-літоўскія адносіны не змяніліся на лепшыя таксама пасля таго, як літоўскае войска ў 1920 годзе заняло Вільню. Патрабаванні беларускіх партый былі літоўцамі ігнараваныя, а канцэсіі ў культурна-асветніцкай галіне пакуль што толькі планаваліся.

Праявай адносін віленскіх беларусаў да ковенскага ўрада была пастанова з'езда беларускіх арганізацыяў у Вільні, якая выяўляла votum недаверу ў адносінах да Сямашкі.

Сямашка, аднак, лічыў сябе літоўскім чыноўнікам і на пастанову не рэагаваў.

Літоўская акупацыя Вільні, зрэшты кароткатрывалая, расчаравала беларусаў у адносінах да Літвы. Праявай гэтага расчаравання можа быў той факт, што ўрад Ластоўскага наладзіў кантакт з высланнікам Найвышэйшай Рады Цярэшчанкам і, дайшоўшы з ім да пагаднення, увайшоў у кантакт з Васілеўскім, паўнамоцным міністрам Рэчыпаспалітай у Рызе.

Беларускія дзеячы запрапанавалі міністру Васілеўскаму падтрымку для польскіх прэтэнзій на беларускія тэрыторыі ўзамен за польскія гарантыі — пасля прызнання ў прынцыпе беларускай незалежнасці — шэрагу канцэсій у галінах адміністрацыйнай, культурнай і асветніцкай.

Аднак, надзеі беларусаў на аб'яднанне беларускіх земляў пад польскай уладай у выніку рымскай канферэнцыі не апраўдаліся. Ластоўскі вярнуўся ў Коўна, дзе ў гэтам часе беларускія аспірацыі пачалі трактавацца сур'ёзна.




## КВАШАНАЯ КАПУСТА

**З сыроваткай (для хуткага карыстання)**

На 2 кг свежай капусты бярэм паўкілаграма яблыкаў, 3—4 дэкі солі, паўтары шклянкі свежай сыроваткі, 1 лыжачку цукру.

Капусту пачысціць, памыць, абсушыць. Каменны посуд або слоік добра памыць, выпаласкаць і выварыць або выпражыць у духоўцы. Яблыкі абабраць, памыць, выняць з іх сярэдзіну, нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі. Капусту нашаткаваць нержавеючым нажом або пры дапамозе шаткаўніцы ці іншага механічнага абсталявання. Капусту з яблыкамі перамяшаць з соллю, а тады збіць у каменным посудзе (павінен выдзяліцца сок), заліць падагрэтай сыроваткай, накрыць талерачкай, на яе палажыць камень, усё накрыць чыстым палатном ці марляй.

Пакінуць капусту ў цяпле на некалькі дзён, найлепш каля кухоннай пліты. Калі капуста пачне пеніцца, прабіць яе ў некалькіх пунктах да дна. Калі закончыцца працэс ферментацыі, капусту можна есці. Трымаць яе неабходна ў халадзільніку. Падаваць у якасці салаты з алеем ці смятанай. Можна таксама падрыхтоўваць з яе больш складаныя салаты, спалучаючы капусту з гароднінай ці садавінай.

**З кменам**

На 2 кг свежай капусты трэба ўзяць 3—4 дэкі солі, 3 лыжкі кмену. Спаласнуць кмен, адцадзіць. Капусту пачысціць, памыць, добра нашаткаваць, перамяшаць з соллю і кменам, палажыць у каменны посуд, выпражаны ў духоўцы, або выварany, збіваць вывараным драўляным таўкачом або рукой да таго часу, пакуль выдзелены сок не пакрые капусту. Накрыць вываранай дошчачкай ці талерачкай, на гэта палажыць камень, накінуць чыстае палатно ці марлю. Паставіць у хатняй тэмпературы, найлепш каля пліты. Праз пару дзён, калі пачне паўставаць пена, трэба абавязкова прабіць капусту да дна ў некалькіх пунктах.

Капуста павінна стаяць у тых жа ўмовах яшчэ 7—8 дзён. Тады ўжо будзе яна гатовая. Пералажыць у слоікі, зачыніць іх і трымаць у халадзільніку ці ў склепе.

**Са слівамі**

На 2 кг свежай капусты бярэм 80 дэкаў сліў- „венгерак", 1 лыжку кмену ці насення кропу, некалькі стоўчаных гваздзік, 5—6 дэкаў солі.

Капусту і кмен падрыхтаваць, як і ў ранейшых рэцэптах. Перамяшаць капусту з соллю, кменам і гваздзікамі. Слівы памыць, выняць з іх костачкі, парэзаць на чвэрткі.

Капусту класці пластамі ў каменны посуд ці слоік, збіваючы яе таўкачом, каб пусціла сок. На кожны пласт класці слівы. Тады — ізноў капусту і г.д. Усё далей рабіць, як і ў ранейшых рэцэптах.

Выкарыстоўваць так падрыхтаваную капусту на салаты.

**ГАСПАДЫНЯ**




**Дарагі Астроне!**

Сняцца мне прыгожыя сны, але і страшныя прысняцца часамі.

Вось, напрыклад, цяпер мне сніцца, быццам я ў гарах. Іду па сцяжынцы і вязу перад сабой каляску з малым дзіцём. Яно плача. Думаю: адкуль яна ўзялася, гэта каляска з малышом, але вязу. Трэба было правезці гэту каляску праз малыя камені. Невядома адкуль паяўляецца медсястра. Яна гаворыць: „Я вам памагу!" Тады бярэ каляску спераду і разам мы праносім яе праз камені. На гэтым я прачнуўся.

Астроне! Што можа абазначаць каляска з дзіцём і медсястра ў гарах? Мяне гэта вельмі непакоіць.

А вось пасля гэтага сну з дзіцём мне сніцца, што мы ідзем з сяброўкай М.П. сярод лугоў. Сонца, кветкі і птушкі спяваюць. А яна гаворыць: „Ты ведаеш, мы столькі гадоў маглі б жыць у пары, а так ты мучышся і я мучуся адна". Я пачаў пацішаць яе, што не ўсё прапала, а жыццё яшчэ перад намі.

Астроне! Ці гэты сон прадвяшчае мне нейкі зрух у маіх сардэчных справах на лепшае, бо мы ж нават цяпер не пішам адно другому.

**А.Г.**

А.Г.! Твой першы сон, пра тое дзіця, някепскі. Дзіця наогул абазначае поспех у справах. Але не абыдзецца без нейкіх цяжкасцей: тыя камені, па якіх трэба было пхаць каляску, сведчаць, што не ўсё пойдзе гладка. Але ж паявілася медсястра, якая дапамагла табе.

Другі сон гаворыць аб добрых пераменах (але не абавязкова з той дзяўчынай).

**АСТРОН**

### КАЛІ САПСАВАЎСЯ ХАЛАДЗІЛЬНІК

Мяса адзін-два дні можна захаваць свежым, калі загарнуць яго ў палатняную анучку, змочаную воцатам. Перад тым, як пачаць гатаваць, прамыйце мяса ў халоднай вадзе.

Мяса і рыбу доўгі час можна захаваць свежымі, калі паракласці іх крапівой і загарнуць у мокрае палатно. Гэты спосаб асабліва рэкамендуецца рыбаловам. Свежая рыба ў карзіне з крапівой можа некалькі дзён не губляць сваіх якасцей.

Каб яйкі доўгі час заставаліся свежымі, змажце іх смальцам, загарніце ў паперу, пакладзіце ў карзіну і падвесце ў халаднаватым месцы.

Масла даволі доўга захоўваецца свежым, калі загарнуць яго ў пергаментную паперу і пакласці ў вельмі салёную ваду. Зверху прыкрыйце талеркай або накрыўкай. Можна загарнуць масла ў анучку, змочаную сумессю воцату і вады.

Малако (кіпячонае) трэба трымаць у крынцы ці фарфоравым посудзе, але ні ў якім разе не ў металічным. Посуд папярэдне апаласніце халоднай вадой. Малако астудзіце, наліце ў крынку, пастаўце ў халодную салёную ваду. Трымайце ў халодным месцы.

Смятану захоўвайце ў гліняным гаршчочку, яго апусціце ў халодную ваду. Ваду мяняйце.

Тварог, сыр загарніце ў чыстую льняную анучку, змочаную салёнай вадой, пакладзіце ў міску і пастаўце ў халаднаватае месца.

Алей у закаркаванай бутэльцы ў хатніх умовах захоўваецца не больш двух месяцаў. Пачатую бутэльку трэба выкарыстоўваць на працягу месяца, інакш алей прагоркне.

Морква лепш захоўваецца, калі яе апырскаць настоем шалупіння цыбулі.

Зялёныя агуркі некалькі дзён застануцца свежымі, калі трымаць іх хвосцікамі ўніз на тры чвэрці ў вадзе. Мяняць яе трэба кожны дзень.

Сырая гародніна добра захоўваецца, калі яе загарнуць у мокры ручнік.

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ?

У чэрвені давялося мне ехаць на аўтобусе з Гайнаўкі ў Беласток. На прыпынку ў Лясанцы ўвайшла старэнькая бабуля гадоў за дзевяноста і стала прасіць шафёра, каб падвёз яе да Міхалова дарма. Шафёр адмовіўся. Таксама ніхто з пасажыраў не паспяшаўся дапамагчы бабульцы і тая неяк наскрабла патрэбныя дзве тысячы злотых на білет. За шафёрам стаіць закон. Яму нельга наводзіць страты для прадпрыемства ПКС.

Праз некалькі дзён ехаў я ў Беласток з Ялоўкі.У дарозе аўтобус папсаваўся. Неўзабаве прыехаў з аўтабазы іншы самаход і зацягнуў наш аўтобус у Беласток. Шафёр, які сядзеў за рулём аўтобуса, назбіраў па дарозе поўную машыну пасажыраў, узяў ад іх грошы, але білетаў нікому не даў. Трэба меркаваць, што гэтыя грошы незаконна трапілі яму ў кішэню. Ці ў гэтым выпадку не будзе страты для ПКС?

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## НА ТОЙ СВЕТ ПЕРАХАЦЕЛАСЯ

Нядаўна я сустрэў Фаму Сымонавіча. Споўнілася яму 96 гадоў. Павіншаваў яго з днём нараджэння і пажадаў здароўя і надалей.

Гаспадар расчуліўся, ударыўся ва ўспаміны...

— Памятаю, пасля ўрачыстага вечара з выпадку майго васьмідзесяцігоддзя я заснуў. І прысніў быццам мая Марфа (няхай ёй зямля будзе пухам) кліча мяне да сябе. Такім прыемным, мяккім голасам кажа: „Не сорамна табе, Фамуша? Пяцьдзесят гадоў разам пражылі, а цяпер я адна тут сумую. Давай хутчэй сюды. Чакаю цябе з таго вашага свету...”

Я падумаў: сапраўды, відаць, час збірацца. І, як на грэх, сустрэў Кірылу Пустазванюка. Дык во ён і кажа:

— Калі ты сабраўся на той свет, то павінен спачатку пайсці ў міліцыю. Там ёсць такі спецыяльны аддзел — АВІР. І яговыя супрацоўнікі раскажуць, што ў такіх выпадках трэба рабіць.

Прыходжу я ў аддзел. Сядзіць там за сталом чалавек. Размаўляе такім ціхім голасам, што я і далонь да вуха прыставіў, але нічога не разбіраю. Тады ён кажа гучней:

— Туды хочаце перасяліцца? — і вялікім пальцам паказвае сабе за спіну.

— Ага, — тлумачу.

— Аб'яднанне сям'і? — пытаецца. — Гэта можна. Дазваляем. А выклік у вас ёсць?

— Так. Кліча мяне туды Марфа Сітаўна.

— А кім яна вам даводзіцца?

— Жонкай была. Кім жа яшчэ?!

— Была, кажаце. Значыцца, шлюб скасаваны?

— Дык яго ніхто не скасоўваў. Жылі, як голуб з галубкай, і раптам яна на той свет, значыцца... А цяпер во кліча мяне да сябе, сарамаціць, што тут затрымаўся. Разумееце?..

— Разумею. Трымайце анкету. Запоўніце яе дакладна. На ўсе пытанні адкажыце... Калі раней там не былі, дык так і пішыце: „Ніколі не быў”. І гэтак далей. Абавязкова трэба ўказаць, ці бываў ваш бацька ў іншых партыях, дзе ён уступіў у шлюб з вашай маці і ці быў гэта першы шлюб. Патрэбна таксама дакладна напісаць дзявочае прозвішча вашай жонкі і вашай цешчы. Удакладніць, ці рэгістравалі вашых бацькоў пастарому адміністрацыйнаму дзяленню. Не забудзьцеся таксама запісаць, ці ўдзельнічалі ў першай і другой сусветных войнах і на чым баку. Зразумела?

— Канечне.

— Тады можаце ісці, — сказаў мне супрацоўнік АВІРа.

Вярнуўся я дамоў і засеў за анкету. У першай сусветнай вайне я прымаў удзел, а ў другой — не, бо ўжо стары быў. Былое прозвішча сваёй Марфы з цяжкасцю ўспомніў. А як пісалася цешча-нябожчыца, калі ў дзеўках хадзіла, — хоць ты забі! Адным словам, плюнуў я на гэта і не аформіў дакументы. Так і застаўся на гэтым свеце.

**АНДРЭЙ ЦАЛУЙКА**
(„Вожык”)




*– Мужыкі, прапаную прыняць у першым чытанні.* **Мал. В. Феакцістава.**

# АНЕКДОТЫ

— Чаго ты пасварылася з суседкай? — пытаюцца ў Агаты.

— Ды ўжо забылася, чаго, — адказвае тая. — Але я ёй гэтага ніколі не дарую!

***

— Афіцыянт, што гэта такое? Я знайшоў гузік у вашым супе!

— Дзякую вам, што вы яго знайшлі, а то я ўсю раніцу думаў, куды ён знік.

***

— Ну, як ваша хвароба? — пытаецца ў селяніна доктар.

— А хай яе ліха! Вельмі ўпартая.

— А як ваша жонка?

— Такая ж самая, доктар.

***

Маці да дачкі:

— За каго б ты, Марылька, хацела выйсці замуж, за бландзіна ці за брунета?

— Э, дзе там перабіраць. Не адмовілася б і ад лысага.

***

— Аб чым ты падумаў, калі я паслала табе паветраны пацалунак?

— Аб тым, што ты вельмі лянівая.

***

— Я прыйшоў паведаміць, што знікла мая жонка.

— Запоўніце бланк і апішыце яе прыкметы.

— Добра, але калі знойдзеце яе, не паказвайце ёй гэты бланк.

***

Камісар французскай паліцыі запаўняе пратакол на затрыманую зладзейку. Камісар — вялікі аматар жаночай прыгажосці і ў рубрыцы „Вочы” піша: чорныя, выразныя, палымяныя, поўныя страсці, аднаго не хапае.

***

Муж сустракае на вакзале жонку з Сочы, тая абураецца:

— Ты нават не абдымеш мяне. Бачыш, які ўважлівы вунь той мужчына да сваёй жонкі?

— Але ж яна ад'язджае.

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**

# МАКАТРАЗМЫ

## ЕЎРАЧМУТ

— Давай Еўропу! — стогне чмут.
— Пара сарваць нацкраты!
— Пара, пара. Дык сам чаму
куеш нацыяналкратыю?

## АРАТАР

Пнуўся нешта сказаць,
Прысупыніўся на „яць-маць”.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## РАЗМОВА ДВУХ ДЭПУТАТАЎ

— З пасяджэннеяў няхораша
ўцякаць...
Дзе ж вашая грамадская свядомасць?..
— А мне якая розніца, дзе спаць:
На сесіі ці на канапе дома?!

**Віктар Трусевіч**

## У КАПУСЦЕ

Месяц выйшаў і схаваўся
Паміж хмарын тлустых...
Вася з Юстай цалаваўся
Пасярод капусты.

Заблудзіліся, дый годзе!
У галоўках хрусткіх.
Вой, што будзе! Вой што будзе!
З плеч упала хустка.

Не знайшлі хусціны... Рады,
Бо знайшлі качанчык.
Знаць пад новую расаду
Будзе сын Іванчык.

**Леанід Глушко**

## З ПАДСЛУХАНАГА

**Клоп:**

— Хэ, колькі ўсяго ўсялякага я пра сваю гаспадыню ведаю — магу пры выпадку сёе-тое пікантнае нашаптаць гаспадару!

**Запісаў М. Підорын**

# РАЗЕТКА НА „С”

**Управа:** 1) з катом не ладзіць, 2) вузкая, пратаптаная, 3) белая, ходзіць з касой, 4) прыкмета добра вядомая, умоўны знак, 5) ён іграе на скрыпцы, 6) жанчыне патрэбны, мужчыне — не, 7) тайны агент, 8) скачок праз сваю галаву.

**Улева** 1) на чале жыхароў вёскі, 2) дзень з ботам, 3) воск або парафін з кнотам, 4) бачыў сваімі вачамі, чуў сваімі вушамі, 5) кабыла, але не конь, 6) у ім пішаш, 7) ні шуму, ні руху, 8) найважнейшы ў плузе.

**Ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 25 нумара. Управа:** карыта, кароль, курган, кішэня, карчма, казляк, канькі, клетка. **Улева:** кветка, куртка, каратэ, Кірыла, каштан, корань, Кузьма, каньяк.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Галена Ткачук з Бельска-Падляшскага і Васіль Петручук з Беластока.

Ніва

**“Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.
Druk: “ORTHDRUK”, Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Яланта Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika “Niwa”, Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132